ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

5929

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 9 (47)

ВЕРАСЕНЬ 1936 г.



МЕНСК—1936

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 9 (47)

ВЕРАСЕНЬ 1936 г.

МЕНСК—1936



# Афіцыйны раздзел

## ПАСТАНОВА № 898

### Совета Народных Камісараў БССР

*30 жніўня 1936 г., г Менск.*

### Аб аператыўна-статыстычнай справаздачнасці па НК Асветы.

Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

Прадстаўлены НК Асветы і ўзгоднены з Кіраўніцтвам Наргасучота БССР пералік форм справаздачнасці для пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школ, дашкольных і палітасветных устаноў, тэхнікумаў і ВУЗ'аў—зацвердзіць.

Старшыня Совета Народных Камісараў
БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік спраў Совета Народных Камісараў
БССР **Лук'янчык.**

Дадатак да пастановы СНК БССР ад 30 жніўня 1936 г. № 898

## Пералік форм статыстычнай справаздачнасці Наркомасветы БССР

| Шыфр і № формы | Назва формы | Кім прадстаўляецца | За які перыяд | У якія тэрміны прадстаўляецца | Як прадстаўляецца (поштай або па тэлеграфу) | Каму прадстаўляецца | Лік паказч. (без адраса) Па дзейніку | Лік паказч. (без адраса) Па выказніку |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **I. Установы дашкольнага выхавання ўсіх тыпаў** | | | | | | | |
| А-1 | Гадавая справаздача за гаспадарчы год на 1-е студзеня | Заг. дзіцячага сада | Адзін раз у год | 10/I | Поштай | РайгарАНА ў 2-х экз. | 15 | 25 |
| А-2 | Учотная картка на летнюю дзіцячую пляцоўку | Заг. дзіцячай пляцоўкі дашкольнага і школьнага ўзросту і лагера | Адзін раз у год | 18/VII | „ | „ | 2 | 10 |
| | **II. Пачатковая, няпоўная сярэдняя і сярэдняя школы** | | | | | | | |
| А-3 | Гадавая справаздача школы за навучальны год | Дырэктар або загадчык школы | 1 раз у год па сканчэнні навучальн. года | У 10-дзённы тэрмін пасля сканчэння заняткаў | Поштай | РайгарАНА ў 2-х экз. | 77 | 20 |
| А-4 | Аб выніках прыёма ў школу на пачатак навучальнага года | Таксама | 1 раз у год па сканчэнні прыёма ў школу | 15 верасня | „ | Таксама | 49 | 37 |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Звесткі аб падрыхтоўцы школы да 1936—1937 навуч. года | „ | 4 разы ў год у летні перыяд | 1/VII, 1/VIII, 1/IX, 15/IX 1936 г. | „ | РайАНА ў 1 экз. | 13 | 3 |
| | Звесткі аб уліку дзяцей, падлягаючых усеагульнаму абавязковаму навучанню | „ | 1 раз у год на пачатак заняткаў у школе | 15-га кастрычніка 1936 г. | „ | РайАНА ў 2-х экз. | 7 | 9 |
| | **III. ВНУ, тэхнікумы і рабфакі** | | | | | | | |
| Б-2 шыфр А | Тэрміновае данясенне аб выніках іспытаў | Дырэктар навуч. устан. | Пасля сканчэння іспытаў | На 2-гі дзень пасля сканчэння іспытаў | Па тэлеграфу | Наркомасветы ў 1 экз. | | |
| Б-1 шыфр А | Тэрміновае данясенне аб ходзе набора | Дырэктар навуч. устан. | У перыяд прыймовай кампаніі | На 2-гі дзень пасля сканчэння прыёма заяў | „ | Наркомасветы ў 1 экз. | | |
| Б-4 шыфр Н | Справаздача аб наборы і падрыхтаванасці навуч. установы да новага навуч. года | „ | 1 раз у год | 18/IX | Поштай | Наркомасветы і інспект. Наргасучота | | |
| Б-5 шыфр П-1 | Справаздача за семестр | „ | 2 разы ў год | У 10-дзённы тэрмін пасля сканч. залік. сесіі | „ | Наркомасветы | | |
| Б-10 шыфр Г-1 | Справаздача за гаспадарчы год | Таксама | 1 раз у год | 1/II | „ | Наркомасветы і інсп. Наргасучота па 1 экз. | 8 | 8 |
| Б-8 шырф П-4 | Справаздача завочнага сектара за квартал | Дырэктар навуч. устан. | 4 разы ў год | 3/I, 3/IV, 3/VIII, і 3/X | „ | Наркомасветы | 8 | 8 |
| Б-13 шыфр П-4 | Гадавая справаздача завочн. сектара | Таксама | 1 раз у год | 1/II | „ | Наркомасветы і інспект. Наргасучота па 1экз. | | |

## Пералік форм статыстычнай справаздачнасці Наркомасветы БССР (працяг)

| Шыфр і № формы | Назва формы | Кім прадстаўляецца | За які перыяд | У якія тэрміны прадстаўляецца | Як прадстаўляецца (поштай або па тэлеграфу) | Каму прадстаўляецца | Лік паказч. (без адраса) Па дзейніку | Па выказніку |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **IV. Курсы па падрыхтоўцы і павышэнню кваліфікацыі настаўнікаў і інш. спецыялістаў устаноў народнай асветы** | | | | | | | | |
| 3-а | Тэрміновае данясенне аб адчыненні курсаў падрыхтоўкі або павышэння кваліфікацыі педагагічнага персанала | Заг. курсаў | Пасля адчынення курсаў | У 3-дзённы тэрмін пасля пачатку заняткаў | Поштай | Наркомасветы | 10 | 13 |
| 3-б | Тэрміновае данясенне аб выпуску курсаў падрыхтоўкі або павышэння кваліфікацыі педагагічнага персанала | Таксама | Пасля зачынення курсаў | У 3-дзённы тэрмін пасля сканчэння заняткаў | » | » | 5 | 9 |
| **V. Дзіцячыя дамы сістэмы Наркомасветы (усіх тыпаў)** | | | | | | | | |
| А-5 | Гадавая справаздача за гаспадарчы год на 1-е студзеня | Заг. дзетдома | 1 раз у год | 10/I | Поштай | РайгарАНА, НКАсветы 1 інсп. Наргасуч. па 1 экз | | |
| **VI. Вячэрнія школы дарослых (пачатковыя і павышанага тыпа)** | | | | | | | | |
| | Справаздача пачатковай школы малапісьменных і няпісьменных за навучальны год | Заг. школы | 1 раз у год | У 10-дзённы тэрмін пасля заканчэння заняткаў | Поштай | РайгарАНА ў 2-х экз. | 17 | 16 |
| В-1 | Справаздача агульнаадукац. школы дарослых павышанага тыпа за навучальны год | » | » | Таксама | » | Таксама | 32 | 7 |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **VII. Масавыя і спецыяльныя бібліятэкі ўсіх тыпаў** | | | | | | | |
| В-III | Гадавая справаздача масавай бібліятэкі па становішчу на 1/I | Заг. бібліятэкі | 1 раз у год | 10/I | Поштай | РайгарАНА ў 2-х экз. | | |
| В-IV | Гадавая справаздача спецыяльн. бібліятэкі | „ | „ | 10/I | Таксама | НКАсветы ў 2-х экз. | Справаздачу прадстаўляюць усе бібліятэкі незалежна ад падпарадк. акрамя профсаюзн. | |
| | **VIII. Клубныя ўстановы** | | | | | | | |
| В-V | Справаздача клубнай установы за гаспадарчы год на 1-е студзеня | Заг. клубнай установы | 1 раз у год | 15/I | Поштай | У РайгарАНА ў 2-х экз. | 9 | 49 |
| | **IX. Музеі цэнтральныя, акруговыя і раённыя сістэмы Наркомасветы** | | | | | | | |
| В-VII | Справаздача за гаспадарчы год | Дырэктар або заг. музея | 1 раз у год | 15/I | Поштай | НКАсветы ў 2-х экз. | | |
| | **X. Навукова-даследчыя ўстановы** | | | | | | | |
| Г-1 | Справаздача за гаспадарчы год | Дырэктар установы | 1 раз у год | 1/II | Поштай | Наркомасветы | | |
| | **XI. Учот фондаў зарплаты** | | | | | | | |
| 8-п | Квартальная справаздача ўстаноў народнай асветы, знаходзячыхся на дзяржбюджэце | Дырэктар установы | 4 разы ў год пакартальна | 10/IV, 10/VII, 10/X і 10/I | Поштай | Наркомасветы ў 1 экз. і акрамя таго за 1 квартал Наргасучоту 1 экз. | | |
| 84-а | Квартальная справаздача ўстаноў народнай асветы, знаходзячыхся на мясцовым бюджэце | Упаўнаваж. РайАНА па с/совету | „ | „ | „ | РайАНА ў 1 экз. і акрамя таго за 1 квартал Наргасучоту | | |

# ЗАГАД № 154

## па Кіраўніцтву Наргасучота БССР

*Ад 9/IX 1936 г.*

На падставе загада ЦУНХУ Дзяржплана СССР ад 29/VI—36 г. за № 324, ЗАГАДВАЮ:

1.

Раённым інспектарам Наргасучота правесці з 1 кастрычніка г. г. згодна прыкладаемага пры гэтым арганізацыйнага плана кантрольны ўчот устаноў народнай асветы па становішчу на 1-е кастрычніка 1936 г. і даслаць у КНГУ БССР матэрыялы гэтага ўчота не пазней 15 кастрычніка 1936 г.

2.

Асігнаваць 500 руб. для прэміравання тых раённых і ўчастковых інспектароў, якія забяспечаць датэрміновае прадстаўленне добраякасных матэрыялаў па ўчоту культуры і навукі.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота
БССР Владзімірскі.

# АРГАНІЗАЦЫЙНЫ ПЛАН

## кантрольнага ўчота ўстаноў народнай асветы на пачатак 1936/37 навучальнага года

### І. Агульныя палажэнні

1. Кантрольна-спісачны ўчот устаноў народнай асветы, які праводзіцца органамі ЦУНХУ Дзяржплана СССР на пачатак 1936/37 навуч. года, мае мэтай:

а) забеспячэнне планавых органаў мінімумам праверaных органамі ЦУНХУ паказчыкаў аб сетцы і кантынгентах масавых устаноў народнай асветы;

б) атрыманне ўчотна-статыстычных матэрыялаў па ўстановах народнай асветы і культурна-асветных арганізацыях у тэрытарыяльна-галінным разрэзе.

2. Кантрольнаму ўчоту падлягаюць усе, без выключэння, наступныя ўстановы народнай асветы і органы друку:

1) дзіцячыя сады; 2) пачатковыя, няпоўныя сярэднія і сярэднія школы; 3) школы дарослых (непісьменных, малапісьменных і школы павышанага тыпа); 4) масавыя бібліятэкі (уключаючы і профсаюзныя); 5) клубныя ўстановы ўсіх тыпаў (дамы соцкультуры, клубы, хаты-чытальні, калгасныя клубы); 6) кінотэатры (стацыянарныя і перасоўкі); 7) газеты (раённыя, гарадскія і нізавыя, якія друкуюцца друкарскім спосабам).

3. Кантрольны ўчот праводзіцца раённымі і ўчастковымі інспектарамі народна-гаспадарчага ўчота (на 1-е кастрычніка 1936 г.) шляхам асабістага наведвання кожнай учытваемай установы і ўнясення даных аб гэтай установе ў адпаведны спіс.

## II. Пералік форм кантрольнага ўчота

4. Для правядзення кантрольнага ўчота на пачатак 1936/37 навучальнага года ўстаноўлены наступныя формы (спісы).

1) Форма „4. У.“ (кантрольны ўчот). Форма „К. У.“ з'яўляецца спісам усіх учытваемых устаноў народнай асветы і культурна-асветных арганізацый, якія распалажаны на тэрыторыі ўчастковага інспектара Наргасучота, і запаўняецца асабіста ўчастковым інспектарам Наргасучота і замацоўваецца яго подпісам.

2) Форма I—Спіс дзіцячых садоў раёна (горада).

Увага: У спіс дзіцячых садоў заносяцца дашкольныя ўстановы гэтага тыпа, якія дзейнічаюць круглы год, а таксама і тыя летнія дзіцячыя пляцоўкі, якія дзейнічаюць на 1 кастрычніка і ў сувязі з пастановай ЦВК і СНК СССР аб пашырэнні сеткі дзіцячых садоў, ясель і інш. ад 27/VI—36 г. яны ператвараюцца ў дзіцячыя сады.

3) Форма II—Спіс пачатковых школ, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ раёна (горада).

4) Форма III—Спіс школ дарослых (непісьменных, малапісьменных і павышанага тыпа), якія дзейнічаюць у раёне (горадзе).

5) Форма IV. Спіс масавых бібліятэк (уключаючы і профсаюзныя бібліятэкі) у раёне (горадзе).

6) Форма V. Спіс клубных устаноў усіх тыпаў у раёне (горадзе).



7) Форма VI—Спіс кіно-тэатраў (стацыянарных і перасовак), якія дзейнічаюць у раёне (горадзе) самастойна альбо пры клубах і іншых установах і прадпрыемствах.

8) Форма VII. Спіс раённых і нізавых (уключаючы палітаддзельскія) газет, якія выходзяць на тэрыторыі данага раёна альбо горада і друкуюцца друкарскім спосабам.

Форма I—VI запаўняецца раённым (гарадскім) інспектарам Наргасучота на падставе атрыманых форм „К. У.“, запоўненых участковымі інспектарамі Наргасучота данага раёна альбо горада.

Форма VII запаўняецца раённым (гарадскім) інспектарам Наргасучота шляхам апытвання рэдакцый учытваемых газет і правяраецца з данымі райліта (гарліта).

5. Кожная з спісачных форм I—VII на ліцавой альбо апошняй старонцы мае зводку лічбовых спісачных даных. Гэту зводку запаўняе раённы (гарадскі) інспектар Наргасучота пасля падвядзення ітогаў спісачных даных.

Копіі гэтых зводак з параўнаннем з данымі на 1-е студзеня 1936 г. райінспектары запаўняюць на спецыяльна надрукаваных таблічных бланках за нумарамі з „Ф. 1-с“ па „Ф. VII-с“ і дасылаюць разам з спісам у Кіраўніцтва Наргасучота БССР, пакідаючы формы 1-VII у сябе для абслугоўвання мясцовых органоў.

## III. Тэрміны запаўнення і прадстаўлення форм кантрольнага ўчота

6. Участковыя інспектары народна-гаспадарчага ўчота запаўняюць формы „К. У.“—„спіс устаноў народнай асветы і культурна-асветных арганізацый“, заканчваючы складанне яго не пазней 5-га кастрычніка, і здаюць гэты запоўнены спіс раённаму (гарадскому) інспектару Наргасучота.

7. Раённыя (гарадскія) інспектары Наргасучота правяраюць прадстаўленыя ўчастковымі інспектарамі спісы „К. У.“ па сутнасці і з данымі такіх-жа спісаў на 1/I 1936 г. і пасля выпраўлення выяўленых памылак складаюць раённыя спісы і зводкі па формах I—VII. Пасля запаўнення гэтых форм райінспектары (горінспектары) Наргасучота звяраюць іх з данымі райана (горана), а форму VII—з райлітам (горлітам). Па сканчэнні праверкі іх з гэтымі ўстановамі і пасля ўнясення неабходных выпраўленняў райінспектары (горінспектары) запаўняюць зводкі па формах „I-с“ да „VII-с“ уключна і не пазней 15-га кастрычніка дасылаюць іх разам са спісам КНГУ БССР.

8. КНГУ БССР складае рэспубліканскія зводкі з выдзяленнем ітогаў па акругах на гэтых-жа бланках I-с, II-с, III-с, IV-с, V-с, VI-с і VII-с і дасылае іх разам з параўнальнымі

данымі на 1/І—36 г. і паясняльнымі запіскамі ў ЦУНХУ к 10 лістапада 1936 г.

9. Бланкі для правядзення кантрольнага ўчота ўстаноў народнай асветы друкуюцца на рускай мове ў цэнтралізаваным парадку.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Владзімірскі.

Начальнік аддзела зводнага ўчота КНГУ БССР Гоўзман.

Кіраўнік секцыі ўчота культуры і навукі Гольдберг.

9 верасня 1936 г.

# ОРГПЛАН

## па правядзенню абследвання ўмоў навучання ў вясковых школах з 1-м настаўнікам, па становішчу на 1/Х 1936 г.

### І. Задачы абследвання

Абследванне мае мэтай высветліць умовы, пры якіх ажыццяўляецца ўстаноўленае законам усеагульнае пачатковае, а потым і 7-гадовае навучанне на тэрыторыях з невялікай агульнай сціласцю насельніцтва, дзе школа разгортваецца ў складзе аднаго камплекта (з адным настаўнікам) пры невялікай колькасці навучаючыхся.

Абследванне гэта павінна высветліць асабліва важнае пытанне аб правільнай арганізацыі навучання ў гэтых школах і высветліць умовы правядзення аднаго з асноўных педагагічных запатрабаванняў да арганізацыі выкладання— адзін настаўнік працуе не больш чым з 2-ма класамі. Рэзультаты абследвання павінны даць кіруючым органам народнай асветы канкрэтны матэрыял для мерапрыемстваў па рэалізацыі запатрабаванняў закона аб усеагульным 4-гадовым і 7-гадовым навучанні ў малакамплектных школах.

### ІІ. Тэрміны і арганізацыя абследвання

1. Абследванню падлягаюць усе аднакамплектныя пачатковыя школы ў вясковых мясцовасцях (школы з адным настаўнікам), уключаючы і тыя школы нацменшасцей, дзе для выкладання беларускай мовы прыцягваецца другі настаўнік, акрамя асноўнага настаўніка, які вядзе заняткі па ўсіх прадметах школьнай праграмы.

2. Бланкі абследвання друкуюцца КНГУ БССР на беларускай мове і рассылаюцца раённым інспектарам да 20/ІХ—36 г.

3. Бланкі запаўняюцца ў 1 экземпляры на кожную абследаваную школу.

4. Абследванне праводзіцца ўчастковымі інспектарамі Наргасучота на тэрыторыі свайго ўчастка па спісу школ, дасылаемым КНГУ разам з бланкамі, шляхам наведвання гэтых школ, пры якім запаўняецца і падпісваецца бланк загадчыкам школы.

5. Тэрмін сканчэння абследвання ўчастковымі інспектарамі 1 лістапада 1936 г.

6. Раённы інспектар Наргасучота, па меры атрымання бланкаў абследвання ад участковых інспектароў, правярае іх і перасылае ў КНГУ з такім разлікам, каб апошняя партыя бланкаў разам з выверанym спісам аднакамплектных школ раёна была даслана ў КНГУ не пазней 10/XI 1936 г.

7. Распрацоўка бланкаў утвараецца ў КНГУ БССР па асобнай інструкцыі ЦУНХУ.

Начальнік КНГУ БССР **Уладзімірскі.**

Начальнік аддзела зводнага ўчота **Гоўзман.**

Кіраўнік секцыі ўчота культуры і навукі **Гольдберг.**

9 верасня 1936 г.

## ІНСТРУКЦЫЯ

### па запаўненню раённымі інспектарамі Наргасучота спісаў кантрольнага ўчота ўстаноў народнай асветы і зводак па становішчу на 1/X 1936 года.

**(У дадатак да ўказанняў, змешчаных на бланках форм I—VII)**

#### Агульная частка

1. Па атрыманні ад участковых інспектароў спісаў формы „К. У." раённы інспектар правярае даныя спіса па сутнасці і параўноўвае сетку і лічбовыя даныя з матэрыяламі кантрольнага ўчота на 1/I 1936 г. Пасля выпраўлення ўсіх недарэчнасцей раённы інспектар складае спісы па ф.ф. I-VII. Зводка гэтых даных выпісваецца на бланкі ф. I-c—VII-c, а потым яны пераносяцца на ліцавую старану спісаў (ф.ф. I-VII).

2. У тым выпадку, калі бланк спіса не ўмяшчае ўсіх установ, трэба да бланка зрабіць даклейку, пры чым у ф. I (спіс дзіцячых садоў) і ф. II (спіс пачатковых, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ) падшыць паперу так, каб спіс меў форму сшытка.

3. Для аблягчэння зводкі і кантроля ў КНГУ, спісы ўстаноў у формах I—VII размяшчаць у тым парадку, у якім яны павінны быць зведзены. Напрыклад, упісаць усе бібліятэкі

РайАНА (раённыя, гарадскія, пры соўгасах і г. д.), потым усе бібліятэкі профсаюзныя і г. д.

4. Платнымі работнікамі трэба лічыць і тых работнікаў, якія атрымоўваюць аплату працаднямі, а таксама сумяшчаючых работу ў культасветных установах з іншай работай (у калгасе і інш.). Учоту падлягаюць толькі культасветныя работнікі (бібліятэкары, палітасветчыкі і дашкольніцы). Канцылярскія работнікі і абслугоўваючы персанал у спісы не ўключаюцца.

5. Разбіўку на гарадскія і сельскія мясцовасці ўтвараць па спісу гарадскіх паселішчаў, змешчаным у оргплане па правядзенню чэрвеньскага ўчоту жывёлы 1936 года.

## Спіс і зводка па дзіцячых садах

(формы I і I-с)

1. У спіс і зводку павінны быць уключаны ўсе стацыянарныя дзіцячыя сады, г. зн. якія дзейнічаюць круглы год, а з сезонных дзіцячых пляцовак, існуючых на 1/X 1936 г., толькі тыя, якія ператвараюцца ў стацыянарныя ў сувязі з пастановай ЦВК і СНК СССР ад 27/VI 1936 г. Спіс апошніх неабходна атрымаць у РайАНА.

2. У спісу для аблягчэння зводкі размяшчаць дзіцячыя сады па ведамствах і арганізацыях з адзнакай у графе 1-й, каго абслугоўвае кожны сад, прытрымліваючыся пераліку наліцавой старане зводкі.

Да іншых (графа „прочие“ у зводцы на ліцавой старане) адносіць тыя дзіцячыя сады, якія знаходзяцца на ўтрыманні РайАНА, і склад дзяцей, якія змешаны (дзеці рабочых, служачых розных прадпрыемстваў і ўстаноў). Да іншых таксама адносяцца дзіцячыя сады Чырвонай арміі.

## Спіс і зводка па пачатковых, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школах

(формы II і II-с)

1. Тыя настаўнікі, якія работаюць у 2-х альбо болей школах, праходзяць па той школе, у якой яны маюць сваю асноўную нагрузку і ў якой яны састаяць на профсаюзным учоце.

2. Даныя аб школах з адным настаўнікам павінны саўпадаць з данымі абследвання ўмоў навучання ў аднакамплектных школах па становішчу на 1-е кастрычніка 1936 г.

3. Чыгуначнымі школамі лічыць тыя школы, якія перададзены органамі НКАсветы па акту органам НКШляхоў Зносін.

## Спіс і зводка агульна-адукацыйных школ дарослых

(формы III і III-с)

1. Даныя аб гэтых школах на 1 ліпеня раённы інспектар атрымоўвае ў РайАНА (ф. № 81 справаздачнасці РВК альбо іншыя крыніцы) і звярае з данымі спісаў участковых інспектароў (гр. 4 „Існавала на 1/VII 1936 г. альбо адкрыта ўноў").

2. Разбіўка школ па ведамствах утвараецца ў залежнасці ад таго, на чыім утрыманні знаходзіцца школа (райАНА, профсаюзы, іншыя ведамствы). У сувязі з гэтым у гр. 3 ф.ф. „К. У" і III паказаць: „райАНА", „профсаюзы" альбо „іншыя".

## Спіс і зводка па масавых бібліятэках

(формы IV і IV-с)

1. У спісу размяшчаць бібліятэкі асобна цэнзавыя (маючыя больш 1000 кніг і платнага бібліятэкара) і няцэнзавыя ў парадку, паказаным у агульнай частцы гэтай інструкцыі (п. 3).

2. Бібліятэкай, маючай пункты выдачы, трэба лічыць такую бібліятэку, якая мае перасоўкі ў цэхах, калгасах, калгасных брыгадах і г. д. Сама бібліятэка не ўваходзіць у лік выдачных пунктаў, напрыклад: калі бібліятэка не мае выдачных пунктаў, гр. 7 спісаў (ф. IV і „К. У.") прачорквaецца, а калі бібліятэка мае два выдачных пункты ў калгасах, тады ў гр. 7 ставіцца 2, а не 3.

3. Тыя бібліятэкі, якія знаходзяцца пры калгасных клубах, падпарадкаваных райАНА (састаячыя на яго бюджэце), уключаюцца ў гр. 6 зводкі, а тыя бібліятэкі, якія састаяць на бюджэце саміх калгасаў, уключаюцца ў ітог раздзела 1 (бібліятэкі АНА), і лік гэтых бібліятэк паказваецца за ўвазе разам з бібліятэкамі жактаў.

4. Перасовачным фондам лічыцца абасоблены фонд кніг, з якога не выдаюцца кнігі асобным чытачам, а толькі ў перасоўкі. У перасовачных фондах маюцца асобныя платныя бібліятэкары.

5. Школьныя бібліятэкі, а таксама бібліятэкі ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў, ФЗВ і навукова-даследчых устаноў учоту не падлягаюць.

## Спіс і зводка клубных устаноў

(формы V і V-с)

1. Пры ўчоце клубных устаноў нележыць прытрымлівацца наступных вызначэнняў, прынятых ЦУНХУ:

а) домам соцкультуры лічыць найбольш разгорнутую клубную ўстанову, якая знаходзіцца ў раённым цэнтры

альбо пры МТС і мае самастойнае памяшканне. Акрамя абслугоўвання мясцовага насельніцтва, дамы соцкультуры павінны з'яўляцца базай для кіраўніцтва ўсёй сеткай культасветных установ свайго раёна дзейнасці.

У склад нармальнага дома соцкультуры павінна ўваходзіць: бібліятэка (там, дзе яна самастойна не існуе як раённая), краязнаўчы музей, кансультацыйны пункт, перыядычныя выстаўкі і г. д. Акрамя таго, асобныя пакоі для масавай работы і работы гурткоў;

б) клубам трэба лічыць такі тып клубнай установы, які мае ў сваім складзе, як мінімум, зал гледача, бібліятэку-чытальню і адзін або некалькі пакояў для работы гурткоў;

в) хата-чытальня павінна мець платнага работніка і памяшканне для чытальні і масавай работы;

г) чырвоныя куткі, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце, павінны адпавядаць тым-жа запатрабаванням, як і хаты-чытальні, і павінны быць паказаны ў зводцы таксама ў гр. I (хаты-чытальні).

2. Тыя калгасныя клубы, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце, паказваюцца ў гр. 2 зводкі, а тыя, якія знаходзяцца на бюджэце калгаса, у раздзеле III „Клубы прочих ведомств“.

3. У спіс трэба ўключаць таксама і тыя калгасныя чырвоныя куткі, якія не адпавядаюць вышэйпаказаным запатрабаванням ЦУНХУ і знаходзяцца на ўтрыманні самаго калгаса. У зводцы гэтыя чырвоныя куткі паказваюцца за ітогам у дабаўленым радку: „Калгасныя чырвоныя куткі“.

4. Спіс клубных установ павінен быць зверан са спісам бібліятэк, бо пры ўсіх клубных установах маюцца бібліятэкі.

5. Графу 7-ю спісаў „К. У.“ і V запаўняць толькі па тых клубных установах, якія маюць уласную стацыянарную альбо перасовачную кіно-ўстаноўку. Даныя аб кіно-ўстаноўках павінны саўпадаць з данымі зводкі ф. IV-с „кино при клубах“.

## Спіс і зводкі кіно-ўстановак

(формы VI і VI-с)

1. Даныя фільмапраката будуць дасланы КНГУ кожнаму раённаму інспектару: гэтыя даныя недакладныя і яны павінны быць удакладнены.

2. Да вучэбна-школьных кіно-ўстановак павінны быць аднесены кіно-ўстаноўкі школ усенавуча, тэхнікумаў, ВНУ, рабфакаў і ФЗВ.

## Спіс і зводка раённых і нізавых газет

(формы VII і VII-с)

1. Для ўстанаўлення тых газет, якія зачыніліся пасля 1/I 1936 г., трэба параўнаць даныя кантрольнага ўчота па колькасці газет на 1 студзеня з данымі ўчота на 1 кастрычніка і выявіць такім чынам, якія газеты зачыніліся.

Лік выпушчаных нумароў і тыраж газет трэба ўстанавіць на месцы ў рэдакцыі.

2. Для таго, каб устанавіць дакладны лік выпушчаных нумароў, трэба разгледзець, які парадкавы лік паказан на апошнім нумары газеты.

Начальнік Аддзела зводнага ўчота КНГУ БССР **Гоўзман.**

Кіраўнік Секцыі ўчота культуры і навукі **Гольдберг.**

14 верасня 1936 г.

# ЗАГАД № 1212

## па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

*Ад 14-га верасня 1936 года*

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР праводзіць з 1/X па 15/X кантрольны ўчот устаноў народнай асветы па становішчу на 1-е кастрычніка 1936 г.

Мэтай гэтага ўчота з'яўляецца атрыманне праверáных мінімальных даных аб сетцы і кантынгентах устаноў народнай асветы, якія неабходны для планавання культурнага будаўніцтва.

У сувязі з гэтым загадваю:

1. Дырэктарам і загадчыкам школ усіх тыпаў, бібліятэк і клубных устаноў прадставіць патрабуемыя ад іх участковымі інспектарамі Наргасучота даныя, прадугледжаныя ў зацверджаных ЦУНХУ формах.

2. Загадчыкам райгарАНА аказаць інспектарам Наргасучота ўсебаковае садзейнічанне пры правядзенні гэтага ўчота.

Народны камісар асветы БССР **Дзякаў.**

# ВЫПІС З ЗАГАДА № 137

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*Ад 29-га жніўня 1936 г.*

Якасць работы значнай колькасці раённых і ўчастковых інспектур нездавальняючая.

Асобныя інспектуры, як: Асіпавіцкая, Бягомльская, Ветрынская, Журавіцкая, Кіраўская, Круглянская, Лепельская,

Горацкая, Суражская і Капатеквіцкая, з месяца ў месяц не выходзяць з прарываў, не гледзячы на частыя выезды работнікаў Кіраўніцтва Наргасучота для аказання ім дапамогі.

Акруговыя кіраўніцтвы да гэтага часу не дабіліся пералому ў палепшанні работы інспектур асобных адстаючых раёнаў і не праводзілі фінансавых рэвізій райінспектур у сваіх раёнах.

Такое становішча сведчыць аб недастатковай адказнасці саміх раённых і ўчастковых інспектароў за даручаную ім работу і аб недастатковай рабоце выязджаючых у раёны работнікаў КНГУ БССР і акруговых кіраўніцтваў.

У мэтах знішчэння паказаных недахопаў загадваю:

1. Начальнікам Акруговых Кіраўніцтваў, пад асабістую адказнасць, устанавіць сістэматычныя праверкі работы ўваходзячых у акругі райінспектур, дэталёва высвятляючы прычыны адставання і аказваючы практычную дапамогу ў наладжванні іх работы, а таксама праводзіць штоквартальна фінансавыя рэвізіі з дасылкай актаў у Кіраўніцтва Наргасучота.

Асаблівую ўвагу звярнуць на работу ўчастковых інспектароў, правяраючы іх работу ў сельсоветах і калгасах.

2. Абавязаць работнікаў Кіраўніцтва Наргасучота перад выездам у раёны атрымліваць ад учотнай інспекцыі заданні па ўсіх аддзелах кіраўніцтва і пасля звароту з камандыроўкі прадстаўляць учотнай інспекцыі даведкі аддзелаў аб выкананні заданняў. Без указання учотнай інспекцыі аб выкананні заданняў, бухгалтэрыі не выплачваць камандыровачных.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Уладзімірскі.

## Усім райінспектарам Наргасучота

Улічваючы, што на працягу лістапада і снежня месяцаў у райінспектурах будзе вельмі напружаная работа, звязаная з падрыхтоўкай да правядзення ўсесаюзнага перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы, Учотная Інспекцыя прапануе Вам правесці ў верасні і кастрычніку месяцах падрыхтоўчыя работы да забеспячэння сельсоветаў пагаспадарчымі кнігамі на 1937 г., а іменна: зрабіць дасканалы разлік патрэбнай колькасці пагаспадарчых кніг для кожнага сельсовета, дагаварыцца з РВК адносна нумарацыі, прашнуроўкі і друкавання кніг (загатоўка шпагату і сургучу) з тым, каб па атрыманні пагаспадарчых кніг іх магчыма было без затрымкі раздаць усім сельсоветам.

Пагаспадарчыя кнігі на 1937 г. Вы павінны ўручыць кожнаму сакратару сельсовета асабіста пад распіску. Пера-

сылка кніг у сельсоветы поштай альбо праз пасланца катэгарычна забараняецца.

Для інструктажу работнікаў сельсоветаў па пытаннях сельсовецкага ўчота на 1937 г. правесці спецыяльную нараду, аб чым Вам належыць загадзя дагаварыцца з старшынёю РВК.

Адначасова напамінаем Вам аб неабходнасці правядзення да 1-га кастрычніка праверкі становішча ўчота ва ўсіх калгасах раёна і дасылкі нам матэрыялаў па гэтай рабоце.

Начальнік Ўчотнай Інспекцыі КНГУ Магідаў.

1-га верасня 1936 г.

## ЗАГАД № 144

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарч. Учота БССР

*Ад 1-га верасня 1936 года.*

Актам рэвізіі Гомельскай інспектуры НГУ ўстаноўлена, што інспектурай самачынна павялічана стаўка аднаму работніку на 50 руб. з чэрвеня месяца.

Загадваю:

1. Гомельскаму горінспектару т. *Глушакову* за самавольнае павышэнне зарплаты работніку супроць каштарыса на 50 руб. стаўлю на від. Неадкладна спыніць незаконную выплату зарплаты звыш каштарыса.

Нам. начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР Шындлер.

## ЗАГАД № 153

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарч. Учота БССР

*Ад 8-га верасня 1936 года.*

Участковага інспектара Лоеўскага раёна *т. Кірыльчанка* за нядбайныя адносіны да справы наладжвання ўчота ў Перадзельскім сельсовеце, дзе ўчот пастаўлен вельмі дрэнна, і складанне няправільных актаў аб сапраўдным становішчы ўчота ў гэтым сельсовеце, чым былі ўведзены ў заблуджэнне РВК і райінспектура Наргасучота,—зняць з работы з 1 верасня г. г.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Владзімірскі.

## Усім райза. Копія Наргасучоту БССР.

Форма аб прадстаўленні звестак аб знішчаных ваўках і драпежных птушках па раёнах БССР—адмяняецца.

Начальнік Кіраўніцтва лясамі мясцовага
значэння НКЗема БССР Нартыш-Блук.
Ст. інспектар Вараб'ёў.

21 жніўня 1936 г. № 725/а.

# Работа раённых і ўчастковых інспектур

## ЗАГАД № 163

### па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарч. Учота БССР

*Ад 11 верасня 1936 г.*

### Аб становішчы работы ўчастковых інспектароў

Праведзенай Учотнай Інспекцыяй праверкай работы ўчастковых інспектароў у цэнтрах участкаў высветлілася, што частка ўчастковых інспектароў, не пражываючых у цэнтры ўчастка, вельмі рэдка наведваюць сельсоветы і калгасы і не аказваюць належнай дапамогі ў наладжванні ўчота, не гледзячы на тое, што сельсоветы прадастаўляюць усе неабходныя ўмовы для работы.

Такое становішча з'явілася ў выніку безадказных адносін часткі ўчастковых інспектароў да выканання ўскладзеных на іх абавязкаў і дрэннага кіраўніцтва іх работай з боку раённых інспектароў, якія замест праверкі работы ўчастковых інспектароў на месцах у сельсоветах і калгасах, а таксама праверкі дзеннікаў,—застаўляюць участковых інспектароў месяцамі працаваць у райінспектуры і гэтым самым фіктыўна павялічваюць штат райінспектуры.

Зусім недапушчальным з'яўляецца ігнараванне майго загада аб абавязковым пражыванні ўчастковага інспектара ў цэнтры ўчастка, а таксама самачынная змена цэнтраў участкаў.

Загадваю:

1. За п'янства і зрыў работы па свайму ўчастку ўчастковага інспектара Мехаўскага раёна *Падеуса* з работы зняць.

2. За слабую работу на сваіх участках абвясціць суровую вымову з папярэджаннем участковым інспектарам Дзержынскага раёна т. *Архіпаву*, Дубровенскага раёна т. *Мінковічу* і Талачынскага раёна т. *Аскерко*.

3. Указаць раённым інспектарам: Мехаўскага раёна т. *Бажонку*, Клімавіцкага раёна т. *Давыдову* і Лёзнянскага

раёна т. *Крукаву* на слабае кіраўніцтва работай участковых інспектароў.

4. Катэгарычна забараніць райінспектарам прымаць на работу ўчастковых інспкетароў без зацверджання Кіраўніцтвам Наргасучота БССР.

5. Устанавіць, як правіла, абавязковае пражыванне ўчастковага інспектара на тэрыторыі сельсовета—цэнтра свайго ўчастка і праверку работы абслугоўваемых ім сельсоветаў і калгасаў не менш аднаго раза ў месяц з аказаннем канкрэтнай дапамогі па наладжванню ўчота сельсоветам і калгасам шляхам дэталёвага інструктажа і дачы растлумачэнняў.

6. Забараніць раённым інспектарам самачынна мяняць цэнтры ўчасткаў без дазволу Кіраўніцтва Наргасучота і пастановы прэзідыума РВК.

7. Абавязаць раённых інспектароў правяраць работу ўчастковых інспектароў на месцах, а таксама і па дзенніках, маючы не ўвазе, што райінспектары нясуць персанальную адказнасць за работу ўчастковых інспектароў нараўне з апошнімі.

8. Учотнай Інспекцыі і акруговым Кіраўніцтвам Наргасучота ўзяць пад асобы нагляд работу ўчастковых інспектароў і кіраўніцтва імі з боку раённых інспектароў.

9. Улічваючы прадстаячую, маючую важнейшае палітычнае значэнне, работу па перапісу насельніцтва, прапанаваць усім раённым інспектарам на працягу верасня месяца ўпарадкаваць работу ўчастковых інспектароў згодна гэтага загада і ўкамплектаваць вакантныя пасады праверанымі, вытрыманымі работнікамі.

Начальнік Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага
Ўчота БССР **Уладзімірскі.**

## Усім райінспектарам Наргасучота

Учотнай Інспекцыяй КНГУ былі разасланы запытанні старшыням сельсоветаў, у якіх знаходзяцца цэнтры ўчастковых інспектароў, з просьбай паведаміць, наколькі забяспечваюцца ўчастковым інспектарам умовы для іх работы і якую дапамогу аказваюць участковыя інспектары сельсовету і калгасам у наладжванні ўчота.

Ад шэрагу сельсоветаў намі атрыманы наступныя паведамленні:

### Іолчанскі сельсовет Камарынскага раёна

З 1-га студзеня па 1 сакавіка 1936 г. участковы інспектар т. *Самойленка* актыўна дапамагаў у наладжванні сельсовецкага ўчота, а з 1 сакавіка наш сельсовет быў непасрэдна

ўзят пад наглад райінспектарам т. *Сакалоўскім*, які часта правяраў і дапамагаў у нашай рабоце, але з ліпеня месяца ніхто з работнікаў Наргасучота ў нас не быў.

Умовы для работы ўчастковага інспектара маюцца (як кватэра, так і карыстанне тэлефонам), але ўчастковы інспектар стала пражывае ў другім сельсовеце.

Інспектура слаба вядзе барацьбу з незаконнай адчотнасцю, якую патрабуюць ад сельсовета.

19/VIII—36 г.

## Клетнянскі сельсовет Быхаўскага раёна

Памяшканне для ўчастковага інспектара сельсоветам прадастаўлена, але ўчастковы інспектар у сельсовеце ніколі не знаходзіцца.

Апошні бывае ў сельсовеце вельмі рэдка. У час веснавой сяўбы быў два разы ў сельсовеце і калгасах.

Лічым неабходным, каб участковы інспектар стала пражываў у цэнтры ўчастка і каб наведваў кожны сельсовет не менш аднаго разу ў месяц, аказваючы практычную дапамогу ў наладжванні ўчота.

19/VIII—36 г.

## Лапіцкі сельсовет Асіпавіцкага раёна

Участковы інспектар Наргасучота пры нашым сельсовеце не пражывае. Умовы для работы намі былі-б прадастаўлены па яго жаданню.

Наведвае наш сельсовет перыядычна ў залежнасці ад неабходнасці правядзення асобных работ.

Так як наш сельсовет знаходзіцца ў цэнтры сельсоветаў, абслугоўваемых участковым інспектарам, апошні павінен пражываць у нашым сельсовеце і больш удзяляць увагі наладжванню ўчота.

20/VIII—36 г.

## Бінложанскі сельсовет Бешанковіцкага раёна

Участковы інспектар стала пражывае ў нашым сельсовеце, але ў сельсовеце бывае зусім рэдка і ў наладжванні ўчота як у сельсовеце, так і ў калгасах удзельнічае слаба.

Умовы для работы прадастаўлены ўчастковаму інспектару згодна пастановы СНК СССР.

Лічу неабходным, каб участковы інспектар знаходзіўся ў сельсовеце кожную дэкаду для праверкі і інструктажа па пытаннях учота. Адзін раз у месяц яму неабходна быць у кожным калгасе.

21/VIII—36 г.

## Усушскі сельсовет Чавускага раёна

Участковы інспектар стала не пражывае ў сельсовеце; бывае 2-3 разы ў месяц, а пры правядзенні спецыяльных работ і больш. Дае ўказанні па пытаннях учота ў сельсовеце і ў калгасах.

З боку сельсовета ўчастоваму інспектару прадастаўляюцца ўсе ўмовы для працы (як карыстанне тэлефонам і г. д.).

21/VIII 1936 г.

## Дзятлавіцкі сельсовет Гомельскага раёна

Участковы інспектар пражывае ў г. Гомелі і прыязджае ў сельсовет 2-3 разы ў месяц для праверкі і інструктажа па справах учота.

Ўмовы для работы яму прадастаўлены.

Лічым неабходным, каб участковы інспектар пражываў у цэнтры ўчастка.

21/VIII 1936 г.

## Сеўруноўскі сельсовет Гомельскага раёна

Участковы інспектар бывае ў сельсовеце 2-3 разы ў месяц, але ніякай дапамогі ў наладжванні ўчота не аказвае і толькі абмяжоўваецца складаннем актаў аб становішчы ўчота. Стала ў сельсовеце ён не пражывае і пры наведванні сельсовета бывае не больш 1 гадзіны, у той час, калі яму прадастаўлены належныя ўмовы для працы.

23/VIII 1936 г.

## Грабенскі сельсовет Чэрвеньскага раёна

Участковы інспектар стала пражывае ў нашым сельсовеце. Да 5-ці дзён на працягу месяца бывае ў нашым сельсовеце і ў калгасах нашага сельсовета, аказваючы належную дапамогу калгасам у вядзенні ўчота па падвойнай сістэме.

Акрамя наведвання калгасаў, участковы інспектар праводзіць нарады рахункаводаў калгасаў пры сельсовеце па пытаннях пастаноўкі ўчота. З боку сельсовета ўчастковы інспектар забяспечан належнымі ўмовамі для працы.

22/VIII 1936 г.

## Цялушскі сельсовет Бабруйскага раёна

Сельсоветам прадастаўлена ўчастковаму інспектару кватэра, але ён у нашым сельсовеце не пражывае.

Участковага інспектара ў нашым сельсовеце не было ўжо на працягу 2-х месяцаў.

Ніякай дапамогі і ўказанняў па справах учота ўчастковы інспектар не аказвае і не дае; становішча ўчота не правярае. Наогул праца ўчастковага інспектара нездавальняючая, так як апошні не цікавіцца становішчам учота ў сельсоветах і калгасах. Маюцца выпадкі, калі ўчастковы інспектар не дае належных адказаў па пытаннях учота альбо адказвае, што сам не ведае.

22/VIII 1936 г.

### Крынкаўскі сельсовет Лёзнянскага раёна

Сталага месцажыхарства пры нашым сельсовеце ўчастковы інспектар не мае, не гледзячы на тое, што з боку сельсовета яму прадастаўлены ўсе належныя ўмовы для працы.

У сельсовеце ўчастковы інспектар бывае рэдка і яшчэ менш у калгасах.

Работа ўчастковага інспектара абмяжоўваецца праверкай звестак, даваемых калгасамі ў сельсовет, а таксама звестак у калгасах у час скачэння сяўбы і ўборкі.

22/VIII 1936 г.

### Цяцерынскі сельсовет Бялыніцкага раёна

Участковы інспектар стала пражывае ў нашым сельсовеце і ў нас бывае часта, аказваючы канкрэтную дапамогу ў пастаноўцы ўчота як у сельсовеце, так і ў калгасах. Сельсоветам прадастаўлены ўсе ўмовы для работы.

22/VIII 1936 г.

### Чарэйскі сельсовет Чашніцкага раёна

Участковы інспектар пражывае ў нашым сельсовеце і бывае ў сельсовеце 3 разы ў тыдзень, аказваючы дапамогу сельсовету і калгасам у наладжванні ўчота.

Умовы для работы яму прадастаўлены нараўне з работнікамі сельсовета.

22/VIII 1936 г.

### Замшынскі сельсовет Лёзнянскага раёна

За час пасеўнай і пачатку ўборачнай участковы інспектар быў на тэрыторыі сельсвета адзін раз. Ніякай дапамогі ў наладжванні ўчота не аказвае. На тэрыторыі нашага сельсовета стала не пражывае.

22/VIII 1936 г.

### Завішанскі сельсовет Плешчаніцкага раёна

Участковы інспектар у нашым сельсовеце не пражывае, але часта бывае ў нашым сельсовеце і ў калгасах і дапамагае ў наладжванні ўчота.

Карыстаецца канцылярыяй сельсовета і тэлефонам нараўне з работнікамі сельсовета.

21/VIII 1936 г.

## Новадворскі сельсовет Заслаўскага раёна

Участковы інспектар на тэрыторыі сельсовета не пражывае.

Ніякай дапамогі ў наладжванні ўчота ўчастковы інспектар не аказвае.

На працягу 8 месяцаў інспектар быў на тэрыторыі сельсовета толькі тры разы.

20/VIII 1936 г.

## Негінскі сельсовет Касцюковіцкага раёна

Участковы інспектар у сельсовеце не пражывае, але бывае 2-3 разы ў месяц і добра праводзіць работу па праверцы становішча ўчота і аказвае дапамогу ў наладжванні ўчота.

Умовы для работы яму прадастаўляюцца.

22/VIII 1936 г.

## Глінскі сельсовет Бягомльскага раёна

З пачатку года ўчастковы інспектар наведаў сельсовет адзін раз і ніякай канкрэтнай дапамогі ў наладжванні ўчота не аказаў.

Такое становішча лічым зусім ненармальным.

24/VIII 1936 г.

## Прыхабскі сельсовет Магілеўскага раёна

Участковы інспектар бывае ў сельсовеце адзін раз у месяц і аказвае належную дапамогу ў наладжванні ўчота.

Ніякіх патрабаванняў да сельсовета аб прадастаўленні ўмоў для работы не прад'яўляў, таму што ўчастковы інспектар на тэрыторыі нашага сельсовета не пражывае.

23/VIII 1936 г.

## Таранаўскі сельсовет Магілеўскага раёна

Участковы інспектар на тэрыторыі сельсовета не пражывае. Бывае ў сельсовеце да пяці раз у месяц і аказвае канкрэтную дапамогу ў наладжванні ўчота, але ў калгасах недастаткова правярае становішча ўчота.

Умовы для работы сельсоветам прадастаўляюцца.

21/VIII—36 г.

## Спярыжскі сельсовет Брагінскага раёна

Участковы інспектар т. *Лоханскі* стала пражывае ў нашым сельсовеце, часта бывае і аказвае дапамогу сельсовету і калгасам у наладжванні пастаноўкі ўчота.

## Сардыцкі сельсовет Дрысенскага раёна

Ніякай работы па наладжванаю ўчота ў нашым сельсовеце ўчастковы інспектар не аказвае і ў нашым сельсовеце не пражывае.

20/VIII—36 г.

## Межанскі сельсовет Мехаўскага раёна

Участковы інспектар Наргасучота *Дадэус М. К.* стала пражывае на тэрыторыі сельсовета, але-ж у сельсовеце бывае толькі пры правядзенні сельскагаспадарчых работ, г. зн. 1/I і 1/VI; таксама і ў калгасах.

Ніякай дапамогі сельсовету і калгасам па ўчоту не аказвае.

З боку сельсовета забяспечан умовамі для работы цалкам згодна пастановы СНК СССР.

26/VIII—36 г.

## Амяльянаўскі сельсовет Смалявіцкага раёна

Участковы інспектар не пражывае на тэрыторыі сельсовета, вельмі рэдка бывае ў сельсовеце і калгасах і ніякай дапамогі ў наладжванні ўчота не аказвае.

Умовы для работы з боку сельсовета прадастаўляюцца.

26/VIII 1936 г.

## Семежаўскі сельсовет Чырвона-Слабодскага раёна

Участковы інспектар бывае ў сельсовеце на працягу года 3-4 разы і на тэрыторыі сельсовета не пражывае.

Умовы для работы сельсоветам будуць прадастаўлены.

24/VIII—36 г.

## Рагоўскі сельсовет Заслаўскага раёна

Не гледзячы на тое, што ўчастковы інспектар пражывае на тэрыторыі сельсовета, ён у сельсовеце бывае вельмі рэдка і канкрэтнай дапамогі па наладжванню ўчота не аказвае.

28/VIII—36 г.

## Жаўнянскі сельсовет Дрысенскага раёна

Участковы інспектар пражывае на тэрыторыі сельсовета і аказвае дапамогу ў наладжванні ўчота, але бывае ў сельсовеце рэдка.

Умовы для работы прадастаўлены.

27/VIII 1936 г.

### Ляднянскі местсовет Дубровенскага раёна

Не гледзячы на сталае месцазнаходжанне на тэрыторыі местсовета, участковы інспектар рэдка бывае ў местсовеце і калгасах і вельмі мала аказвае ім дапамогі ў наладжванні ўчота.

26/VIII—36 г.

### Саколінскі сельсовет Расонскага раёна

На працягу 1936 года ўчастковы інспектар наведаў наш сельсовет два разы: першы раз пасля перапісу жывёлы ў студзені і другі раз прывёз бланкі заключнай справаздачы па веснавой сяўбе.

Дапамогі ў наладжванні ўчота сельсовету і калгасам ніякай не аказвае.

З боку сельсовета былі-б прадастаўлены ўмовы для работы, але-ж ён на тэрыторыі нашага сельсовета не пражывае.

Паколькі наш сельсовет з'яўляецца цэнтрам участка, інспектар павінен знаходзіцца ў нашым сельсовеце, перыядычна праводзіць інструкцыйныя нарады рахункаводаў калгасаў (а іх у нашым сельсовеце 15), а таксама нарады сакратароў і рахункаводаў сельсоветаў па пытаннях учота, арганізаваць узаемаправерку калгасаў і сельсоветаў па ўчоту.

25/VIII—36 г.

### Сталінскі пасялковы совет Оршанскага раёна

За ўвесь час участковы інспектар быў у нас адзін раз. Дзе ён пражывае, нам невядома. Пасялковы сельсовет прадастаўляе ўсе ўмовы для работы ўчастковага інспектара.

25/VIII 1936 г.

### Бескатаўскі сельсовет Гарадоцкага раёна

Не гледзячы на тое, што наш сельсовет з'яўляецца цэнтрам участка, участковы інспектар у нас не пражывае і за апошнія два месяцы ніводнага разу не быў у сельсовеце, а калгасам зусім не дапамагае ў наладжванні ўчота.

24/VIII—36 г.

### Хадасоўскі сельсовет Мсціслаўскага раёна

Участковы інспектар пражывае ў нашым сельсовеце і аказвае належную дапамогу ў наладжванні ўчота.

Умовы для работы сельсовета прадастаўлены.

25/VIII—36 г.

### Сардыцкі сельсовет Дрысенскага раёна

Ніякай работы па наладжванаю ўчота ў нашым сельсовеце ўчастковы інспектар не аказвае і ў нашым сельсовеце не пражывае.

20/VIII—36 г.

### Межанскі сельсовет Мехаўскага раёна

Участковы інспектар Наргасучота *Дадэус М. К.* стала пражывае на тэрыторыі сельсовета, але-ж у сельсовеце бывае толькі пры правядзенні сельскагаспадарчых работ, г. зн. 1/I і 1/VI; таксама і ў калгасах.

Ніякай дапамогі сельсовету і калгасам па ўчоту не аказвае.

З боку сельсовета забяспечан умовамі для работы цалкам згодна пастановы СНК СССР.

26/VIII—36 г.

### Амяльянаўскі сельсовет Смалявіцкага раёна

Участковы інспектар не пражывае на тэрыторыі сельсовета, вельмі рэдка бывае ў сельсовеце і калгасах і ніякай дапамогі ў наладжванні ўчота не аказвае.

Умовы для работы з боку сельсовета прадастаўляюцца.

26/VIII 1936 г.

### Семежаўскі сельсовет Чырвона-Слабодскага раёна

Участковы інспектар бывае ў сельсовеце на працягу года 3-4 разы і на тэрыторыі сельсовета не пражывае.

Умовы для работы сельсоветам будуць прадастаўлены.

24/VIII—36 г.

### Рагоўскі сельсовет Заслаўскага раёна

Не гледзячы на тое, што ўчастковы інспектар пражывае на тэрыторыі сельсовета, ён у сельсовеце бывае вельмі рэдка і канкрэтнай дапамогі па наладжванню ўчота не аказвае.

28/VIII—36 г.

### Жаўнянскі сельсовет Дрысенскага раёна

Участковы інспектар пражывае на тэрыторыі сельсовета і аказвае дапамогу ў наладжванні ўчота, але бывае ў сельсовеце рэдка.

Умовы для работы прадастаўлены.

27/VIII 1936 г.

## Ляднянскі местсовет Дубровенскага раёна

Не гледзячы на сталае месцазнаходжанне на тэрыторыі местсовета, участковы інспектар рэдка бывае ў местсовеце і калгасах і вельмі мала аказвае ім дапамогі ў наладжванні ўчота.

26/VIII—36 г.

## Саколінскі сельсовет Расонскага раёна

На працягу 1936 года ўчастковы інспектар наведаў наш сельсовет два разы: першы раз пасля перапісу жывёлы ў студзені і другі раз прывёз бланкі заключнай справаздачы па веснавой сяўбе.

Дапамогі ў наладжванні ўчота сельсовету і калгасам ніякай не аказвае.

З боку сельсовета былі-б прадастаўлены ўмовы для работы, але-ж ён на тэрыторыі нашага сельсовета не пражывае.

Паколькі наш сельсовет з'яўляецца цэнтрам участка, інспектар павінен знаходзіцца ў нашым сельсовеце, перыядычна праводзіць інструкцыйныя нарады рахункаводаў калгасаў (а іх у нашым сельсовеце 15), а таксама нарады сакратароў і рахункаводаў сельсоветаў па пытаннях учота, арганізаваць узаемаправерку калгасаў і сельсоветаў па ўчоту.

25/VIII—36 г.

## Сталінскі пасялковы совет Оршанскага раёна

За ўвесь час участковы інспектар быў у нас адзін раз. Дзе ён пражывае, нам невядома. Пасялковы сельсовет прадастаўляе ўсе ўмовы для работы ўчастковага інспектара.

25/VIII 1936 г.

## Бескатаўскі сельсовет Гарадоцкага раёна

Не гледзячы на тое, што наш сельсовет з'яўляецца цэнтрам участка, участковы інспектар у нас не пражывае і за апошнія два месяцы ніводнага разу не быў у сельсовеце, а калгасам зусім не дапамагае ў наладжванні ўчота.

24/VIII—36 г.

## Хадасоўскі сельсовет Мсціслаўскага раёна

Участковы інспектар пражывае ў нашым сельсовеце і аказвае належную дапамогу ў наладжванні ўчота.

Умовы для работы сельсовета прадастаўлены.

25/VIII—36 г.

### Лошніцкі сельсовет Барысаўскага раёна

Участковы інспектар мае сталае месцазнаходжанне пры нашым сельсовеце.

У сельсовеце бывае 2-3 разы ў месяц і аказвае дапамогу ў вядзенні пагаспадарчых кніг асноўных вытворчых паказчыкаў гаспадарак і інш.

З боку сельсовета ўчастковы інспектар забяспечваецца належнымі ўмовамі для работы.

29/VIII—36 г.

### Васілевіцкі сельсовет Рэчыцкага раёна

Участковы інспектар т. *Несцераў* пражывае ў 4 клм. ад сельсовета. Ніякай дапамогі сельсовету не аказвае і сам у сельсовет не з'яўляецца, а калі з'яўляецца раз у месяц, то не зварачваецца да старшыні сельсовета. Што ён робіць у калгасах, сельсовету невядома.

27/VIII—36 г.

### Мохаедаўскі сельсовет Нараўлянскага раёна

Сталага месцажыхарства пры нашым сельсовеце ўчастковы інспектар не мае.

З 1-га чэрвеня ўчастковы інспектар у нас не быў; ні разу не быў у калгасах і ніякага інструктажа з рахункаводамі не праводзіў.

З боку сельсовета наладжаны ўмовы для работы.

29/VIII—36 г.

### Ляхавіцкі сельсовет Жыткавіцкага раёна

Участковы інспектар пражывае ў нашым сельсовеце, але ў сельсовеце ніколі не бывае і ніякай дапамогі сельсовету і калгасам не аказвае.

Умовы для работы прадастаўлены.

31/VIII—36 г.

### Камаравіцкі сельсовет Капаткевіцкага раёна

На тэрыторыі нашага сельсовета ўчастковы інспектар не пражывае. У сельсовеце ён бывае адзін раз у 2 месяцы. Ніякай дапамогі па наладжванню ўчота не аказвае.

27/VIII—36 г.

### Хутарскі сельсовет Чэрвеньскага раёна

Участковы інспектар пражывае ў нашым сельсовеце і часта наведвае сельсовет, садзейнічае ў рабоце сельсовета, паколькі з'яўляецца членам прэзідыума сельсовета.

Усе ўмовы для работы яму прадастаўлены.

## Астроўскі сельсовет Суражскага раёна

Участковы інспектар т. *Герасімаў* пражывае на тэрыторыі сельсовета, часта бывае ў сельсовеце і аказвае дапамогу сельсовету ў наладжванні пярвічнага ўчота, а таксама дапамагае калгасам па пытаннях учота.

Усе ўмовы для яго работы прадастаўлены.

6/IX—36 г.

## Кармянскі сельсовет Добрушскага раёна

Участковы інспектар т. *Клімянкова* вельмі рэдка бывае ў сельсовеце і мала аказвае дапамогі сельсовету, не гледзячы на тое, што яна пражывае ў цэнтры сельсовета. Аб гэтым сельсоветам было павядомлена райінспектару т. *Праказаву*, але апошні ніякіх мер не прымае. Ніякім аўтарытэтам т. *Клімянкова* не карыстаецца.

30/VIII—36 г.

## Людвінаўскі сельсовет Парыцкага раёна

Ніякай дапамогі сельсовету ў наладжванні ўчота участковы інспектар не аказвае, а абмяжоўваецца рэдкай праверкай.

У нашым сельсовеце не пражывае і ніхто не кантралюе яго работу.

З боку сельсовета прадастаўлены ўсе ўмовы для работы.

2/IX—36 г.

## Рыдомльскі сельсовет Талочынскага раёна

Сельсовету да гэтага часу не было вядома, што наш сельсовет з'яўляецца цэнтрам участка ўчастковага інспектара Наргасучота.

Да гэтага часу ўчастковы інспектар ні аднаго разу не быў у сельсовеце, і сельсовет не ведае свайго ўчастковага інспектара.

5/IX—36 г.

Паказаныя вышэй паведамленні сельсоветаў яскрава сведчаць аб тым, што ўчастковыя інспектары яшчэ не замацаваліся стала на сваіх участках і не выконваюць сваёй асноўнай работы па аказанню сельсоветам і калгасам дапамогі ў наладжванні ўчота, не гледзячы на тое, што з боку сельсоветаў забяспечваюцца належныя ўмовы для работы.

Лічачы такое становішча ў рабоце ўчастковых інспектароў зусім недапушчальным, Учотная Інспекцыя катэга-

рычна прапануе ўсім райінспектарам замацаваць участковых інспектароў у цэнтрах іх участкаў (паставіць пытанне на прэзідыуме сельсовета, дагаварыцца з старшынёй сельсовета адносна памяшкання, карыстання тэлефонам і г. д.) з тым, каб яны мелі там сталае месцазнаходжанне, а таксама перыядычна правяраць іх работу на месцы.

Начальнік Учотнай Інспекцыі КНГУ БССР **Магідаў**

14 верасня 1936 г.

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Бешанковіцкага раённага выканаўчага камітэта

*Ад 13 жніўня 1936 г.*

### Аб становішчы ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах

Прэзідыум Райвыканкома пастанаўляе:

1. Адзначыць, што, не гледзячы на тое, што як пастановай прэзідыума РВК ад 13 красавіка г. г., таксама і на нарадах сакратароў і рахункаводаў сельсоветаў 24 сакавіка, 23 мая і 26 чэрвеня прапанована было сельсоветам звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на пастаноўку ўчота і справаздачнасці, паасобныя сакратары сельсоветаў да гэтага часу не надалі той увагі ўчоту і справаздачнасці, якую належыць надаць гэтай галіне працы; яны лічаць, што ўчот і справаздачнасць—гэта другарадная галіна працы сельсовета, і ўсклалі яе на рахункаводаў сельсоветаў.

2. Лічыць зусім недапушчальным з'явішчам, што сакратар Бачэйкаўскага сельсовета *Чупрак* дапусціў у канцылярыі совета хаос, пагаспадарчыя кнігі вядзе неакуратна, да гэтага часу не завёў журнал учота сельскагаспадарчых кампаній, дасылае ў райзо блытаныя, неадпавядаючыя сапраўднасці звесткі, пры правядзенні ўчота гаспадарак і жывёлы адны і тыя-ж гаспадаркі занёс і ў спісы калгаснікаў і ў спісы рабочых і служачых, чым штучна павялічыў у сельсовеце колькасць як гаспадарак, так і жывёлы.

3. Сакратара Бачэйкаўскага сельсовета *Чупрака* за тое, што ён давёў учот і справаздачнасць у сельсовеце да хаатычнага становішча, даваў у райза блытаныя і неадпавядаючыя сапраўднасці звесткі аб ходзе веснавой сяўбы, з працы зняць і на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР ад 27 лістапада 1933 г. (аб адказнасці за дачу няправільных звестак) і пастановы СНК СССР ад 26 студзеня 1934 г. (аб адказ-

насці за неакуратнае і несвоечасовае вядзенне пагаспадарчых кніг) аддаць пад суд.

4. Апошні раз папярэдзіць сакратароў сельсоветаў, што за пастаноўку ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах, асабліва за своечасовае і акуратнае вядзенне пагаспадарчых кніг, яны нясуць персанальную адказнасць, і калі будуць заўважаны недахопы па вядзенню гэтых кніг, а таксама калі будуць выпадкі перадачы аддзелам РВК блытаных, неадпавядаючых сапраўднасці звестак і парушэння ўстаноўленых урадам тэрмінаў,—вінаватыя ў гэтым будуць здымацца з працы і аддавацца пад суд.

5. Адзначаючы, што сакратары сельсоветаў не цікавяцца становішчам учота і справаздачнасці ў калгасах, прапанаваць ім пры ўсялякім наведванні калгасаў абавязкова правяраць там становішча ўчота і справаздачнасці, вывучыць якасць працы рахункавода кожнага калгаса, не радзей аднаго раза ў месяц склікаць нарады рахункаводаў усіх калгасаў свайго сельсовета, на якіх ставіць даклады пасобных рахункаводаў, абменьвацца вопытам у рабоце, ставіць у прыклад работу лепшых рахункаводаў, прымацаваць моцных і здольных рахункаводаў да больш слабых для аказання практычнай дапамогі.

Старшыня РВК Князеў.

Сакратар Васілевіч.

# УЧОТНАЙ ІНСПЕКЦЫІ КНГУ

## Інфармацыя аб выніках соцспаборніцтва з Камарынскай інспектурай Наргасучота*

1. Учот у сельсоветах у асноўным заведзен, маюцца пасобныя сельсоветы, дзе ўчот пастаўлен дрэнна, соцспаборніцтвам ахоплена толькі палова сельсоветаў; але намі прыняты меры да выпраўлення гэтых недахопаў:

а) на прэзідыуме РВК ставіліся два разы справаздачныя даклады 2-х сакратароў сельсоветаў з судакладамі райінспектара;

б) участковыя інспектары два разы правяралі становішча ўчота ў сельсоветах і калгасах;

в) праверка становішча справаздачнасці ў арганізацыях раёна праводзілася два разы.

2. Планаванне работы ўчастковых інспектароў вядзецца з другой паловы гэтага года. Вытворчыя нарады з участковымі інспектарамі праводзяцца кожны месяц.

3. З пачатку года былі арганізаваны заняткі для падвышэння тэхнічнага і палітычнага ўзроўню работнікаў інспектуры і ўчастковых інспектароў, але зараз гэта работа не праводзіцца.

4. Запаўненне кнігі „Асноўныя паказчыкі народна-гаспадарчага плана“ не вядзецца.

5. Учот пасеўных плошчаў і чэрвеньскі ўчот жывёлы праведзены датэрмінова, і матэрыялы здадзены ў КНГУ 3-4 ліпеня.

6. Прыёмка матэрыялаў ад сельсоветаў па ўчоту пасеўных плошчаў праводзілася ў сельсоветах участковымі інспектарамі.

7. Квартальная справаздачнасць аб рабоце жывёлагадоўчых калгасных ферм дасылаецца ў КНГУ своечасова.

8. Вымярэнне ўраджаю на корані праведзена ў тэрмін і добраякасна з устанаўленнем вільготнасці зярна.

9. Збор звестак аб відах на ўраджай быў забяспечан участковымі інспектарамі, і звесткі гэтыя дасылаліся ў КНГУ.

10. У адносіне рэгістрацыі будаўніцтва прыняты меры да поўнага ахопу рэгістрацыяй будаўніцтва; надрукавана і разаслана ўсім калгасам, сельсоветам і арганізацыям пастанова РВК.

11. Матэрыялы па кантрольнаму ўчоту пачатковых і сярэдніх школ прадстаўлены ў КНГУ несвоечасова.

12. Па кантрольнаму ўчоту дзіцячых пляцовак на 15/VII—36 г. матэрыялы прадстаўлены ў КНГУ датэрмінова.

13. Спісы культурна-асветных устаноў участковымі інспектарамі вядуцца неакуратна.

14. Па ўчоту натуральнага і механічнага руху насельніцтва матэрыялы прадстаўляюцца ў КНГУ своечасова.

ЧВА райінспектара Наргасучота Лоеўскага раёна—Колас.

## У Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

Па ходу соцспаборніцтва інспектуры мы маем наступнае становішча:

1. У гэтым годзе інспектурай ужо 3 разы ставіўся даклад на прэзідыуме РВК аб становішчы ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах; асабіста раённым інспектарам абследвана 3 сельсоветы (Навікоўскі, Свячанскі і Бачэйкаўскі).

2. Па нашаму дакладу за очкаўцірацельства старшыні 4 калгасаў прэзідыумам РВК аддавы пад суд.

3. Таксама па дакладу інспектуры прэзідыум РВК зняў з работы і аддаў пад суд сакратара Бачэйкаўскага сельсовета за очкаўцірацельства і несвоечасовае вядзенне пагаспадарчых кніг.

4. Не гледзячы на тое, што замест паложаных па штату 4 участковых інспектароў з першага ліпеня працуе толькі

2 (адзін прызван у Чырвоную армію і адзін захварэў),— на 100 проц. выканана заданне сельгасаддзела па біялагічнаму вымярэнню ўраджая (у 5 калгасах).

5. Праведзены 3 нарады сакратароў сельсоветаў і рахункаводаў калгасаў.

6. Перад пачаткам учота пасеўных плошчаў праведзены нарады рахункаводаў усіх калгасаў. На гэтых нарадах, акрамя інструктажа аб правядзенні ўчота пасеўных плошчаў і ўчота жывёлы і гаспадарак, ставілася таксама пытанне аб становішчы ўчота ў калгасах.

7. Работа інспектуры тармозіцца тым, што ўжо каля 2 месяцаў працуе толькі 2 участковых інспектары замест паложаных 4-х.

Раённы інспектар НГУ Бешанковіцкага раёна **Кулакоўскі.**

# ПАСТАНОВА

## нарады работнікаў Бялыніцкай інспектуры Наргасучота.

*Ад 20/VIII 1936 г.*

Мы, раённыя і ўчастковыя інспектары Бялыніцкай інспектуры НГУ, абгаварыўшы соцдогавар, заключаны Кіраўніцтвам НГУ БССР з Ленінградскай, Маскоўскай і Калінінскай абласцямі, далучаемся да гэтага соцдогавара і абавязваемся: своечасова і добраякасна выконваць усе абавязкі па догавару, якія датычацца раённага і ўчастковых інспектароў, у прыватнасці правесці падрыхтоўчыя работы да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы і вымярэнне ўраджаю бульбы на корані на „выдатна", а таксама добраякасна выконваць бягучыя работы і дасылаць своечасова ўсе зводкі ў Кіраўніцтва НГУ; заключыць індывідуальныя соцдагавары паміж работнікамі інспектуры, а таксама паміж участковымі інспектарамі на лепшае правядзенне ўчотна-статыстычных работ. Адначасова выклікаем на соцспаборніцтва райінспектара і ўчастковых інспектараў НГУ Бярэзінскага раёна па ўсіх пунктах соцдогавара, заключанага паміж КНГУ БССР з КНГУ Ленінградскай, Маскоўскай і Калінінскай абласцей, якія датычацца раённага і ўчастковых інспектароў.

Райінспектар НГУ Сцехновіч.

Участковыя інспектары: Шчарбун, Дубасаў, Карзюк.

## Участковаму інспектару Расонскай інспектуры Наргасучота тав. Левіну

Надаючы вялікае значэнне метадам социялістычнага спаборніцтва ў хутчэйшым і добраякасным выкананні работ, пастаўленых перад інспектурамі наргасучота Цэнтральным Кіраўніцтвам Наргасучота Дзяржплана СССР і Кіраўніцтвам Наргасучота БССР, я, участковы інспектар Халопеніцкай інспектуры Наргасучота *Кухлякоў*, выклікаю Вас на соцспаборніцтва па ніжэйнаступных пунктах:

1. Дабіцца пастаноўкі пярвічнага ўчота ў сельсоветах на „добра".
2. Забяспечыць 100-процантнае прадстаўленне ў інспектуру матэрыялаў паквартальнай справаздачнасці форм з добраякасным запаўненнем форм к 3-му числу наступнага за справаздачным кварталам месяца.
3. Дабіцца 100-процантнага ахопу абследваннем будаўніцтва ў калгасах як пачатага, так і скончанага.
4. Забяспечыць поўнае прадстаўленне ў інспектуру квартальнай справаздачнасці аб колькасці работнікаў і фондах зарплаты к 8-му числу наступнага за справаздачным кварталам месяца (форма №№ 32, 74, 8) і штомесячнай справаздачнасці (форма №№ 1, 6а, 6б) к 8-му числу кожнага месяца.
5. Добраякасна весці спіс культурна-асветных устаноў, а таксама і дзеннік работы ўчастковага інспектара.
6. Забяспечыць своечасовае прадстаўленне сельсоветамі другіх актаў грамадзянскага стану ў ЗАГС да 2-га числа кожнага месяца з добраякасным запаўненнем іх.

Аб прыняцці пунктаў соцдогавара прашу паведаміць мяне. Арбітрам па праверцы выканання пунктаў соцдогавара просім быць Учотную Інспекцыю КНГУ. Выкананне соцдогавара асвятліць у бюлетэні.

Участковы інспектар Наргасучота
Халопеніцкага раёна Кухлякоў.

## ДОГАВАР

### на соцыялістычнае спаборніцтва

Я, участковы інспектар Наргасучота Бялыніцкага раёна *Шчарбун С. Н.*, улічваючы палітычна-гаспадарчую важнасць заключанага Кіраўніцтвам Наргасучота БССР догавара на спаборніцтва з КНГУ Ленінградскай, Маскоўскай і Калінінскай абласцей, поўнасцю яго падтрымліваю і бяру на сябе абавязак выканаць наступнае:

1. Добраякасна правесці біялагічнае вымярэнне ўраджаю бульбы ў вызначаным мне калгасе.

2. Своечасова і добраякасна прадставіць ад калгаснатаварных ферм свайго ўчастка квартальныя справаздачы за III і IV кварталы па ўчоту прадукцыі жывёлагадоўлі.

3. Сістэматычна праводзіць інструктаж сакратароў сельсаветаў і рахункаводаў калгасаў у правільнай пастаноўцы ўчота і справаздачнасці, для чаго да 20/VIII—36 г. абавязваюся ўтварыць інструктаж і праверку становішча ўчота ва ўсіх сельсаветах свайго ўчастка і 18 калгасах, дапамагаючы рахункаводам калгасаў завесці ўчот па падвойнай сістэме, які яшчэ не ўведзен па майму ўчастку ў 7 калгасах.

Дабіцца заключэння індывідуальных дагавароў на соцспаборніцтва паміж сакратарамі сельсаветаў на лепшую пастаноўку ўчота і справаздачнасці ў сельсаветах.

4. Узмацніць барацьбу ў калгасах і сельсаветах з очкаўціррацельствам пры дачы звестак у час прадстаячай асенняй пасеўнай кампаніі.

5. Да 31/XII—36 г. зарэгістраваць у калгасах і дзяржсектары ўсё скончанае і пераходзячае будаўніцтва, вытваранае ў 1936 г.

6. Добраякасна і своечасова правесці як падрыхтоўчыя работы да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы, так і самы перапіс.

7. Своечасова выконваць усе распараджэнні райінспектара па ўсёй бягучай рабоце.

Выклікаю на соцспаборніцтва па ўсіх паказаных пунктах участковага інспектара 3-га ўчастка т. *Дубасава.*

Участковы інспектар Бялыніцкага раёна Шчарбун.

## СОЦДОГАВАР

Мы, работнікі Даманавіцкай інспектуры Наргасучота, распрацаваўшы догавар соцыялістычнага спаборніцтва абласных Кіраўніцтваў Наргасучота Ленінградскай, Маскоўскай і Калінінскай абласцей, Кіраўскага краю, БССР і Маскоўскага гар. КНГУ і ўлічваючы вялікія поспехі стаханаўскага руху ў падняцці інтэнсіўнасці працы і падняцці соцыялістычнага спаборніцтва на высокую ступень, аднагалосна

ПАСТАНАВІЛІ:

Падняць узровень учотнай работы шляхам соцыялістычнага спаборніцтва, узяўшы на сябе наступныя абавязацельствы па выкананню ўсіх правадзімых работ, і выклікаць на соцспаборніцтва Парыцкую інспектуру Наргасучота.

1. Арганізаваць падвышэнне палітычнага і тэхнічнага ўзроўню работнікаў інспектуры шляхам праработкі матэрыялаў агульнымі сіламі і абмену вопытам, для чаго два разы ў месяц праводзіць тэхнічныя нарады.

2. Дабіцца поўнага і своечасовага завядзення пярвічнага ўчота ў сельсоветах і райарганізацыях, праводзячы наступныя мерапрыемствы:

а) садзейнічаць развіццю соцспаборніцтва паміж работнікамі сельскіх советаў на ўзорную пастаноўку ўчота і справаздачнасці;

б) паставіць на прэзідыуме РВК чатыры разы ў год справаздачныя даклады 2-3 сакратароў сельсоветаў з судакладам раўінспектара аб становішчы ўчота ў сельсоветах;

в) участковым інспектарам праводзіць два разы ў год абследванне становішча пярвічнага ўчота ва ўсіх сельсоветах свайго ўчастка і не менш як у 15 калгасах. Раённаму інспектару абследваць асабіста не менш 6-ці сельсоветаў і 8 калгасаў;

г) праводзіць штоквартальна праверку становішча справаздачнасці не менш чым у 2-х райарганізацыях з пастаноўкай у неабходных выпадках дакладаў аб выніках праверкі на прэзідыуме РВК.

3. Забяспечыць сістэматычнае і своечасовае запаўненне кнігі асноўных паказчыкаў выканання народна-гаспадарчага плана раёна і прадастаўляць своечасова матэрыял (Акруговаму Кіраўніцтву Наргасучота 13-га кожнага месяца, Кіраўніцтву Наргасучота БССР 15-га кожнага месяца і кіруючым раённым арганізацыям).

4. Забяспечыць своечасовае прадстаўленне ў Кіраўніцтва Наргасучота матэрыяла па квартальных справаздачах калгасных таварных ферм.

5. Дабіцца 100% ахопу бягучай рэгістрацыяй пачатага і скончанага будаўніцтва па сваіх участках.

6. Правесці дасканалую падрыхтоўку да абследвання скончанага ў 1936 г. і пераходзячага на 1937 г. будаўніцтва, своечасова склаўшы кантрольны спіс, і скончыць работу не менш чым за 5 дзён да тэрміна.

7. Забяспечыць прадстаўленне штомесячнай і квартальнай справаздачнасці па працы і зарплаце ў Кіраўніцтва Наргасучота да 12-га чысла.

8. Своечасова адсылаць другія экземпляры актаў грамадзянскага стану і якасна весці ўчот натуральнага руху насельніцтва.

9. Забяспечыць культурнае вядзенне справаводства ў інспектуры і на ўчастках, без затрымкі адказваць на ўсе запытанні як Кіраўніцтву Наргасучота і Акруговаму Кіраў-

ніцтву НГУ, так і раённым арганізацыям, дабіцца ўзорнай пастаноўкі фінансавай справаздачнасці ў райінспектуры.

10. Дабіцца таго, каб участковыя інспектары працавалі штомесячна па плану.

Арбітрамі па гэтаму соцдогавару просім быць начальніка Кіраўніцтва Наргасучота т. *Владзімірскага*, начальніка Акруговага КНГУ т. *Флеера* і начальніка Ўчотнай Інспекцыі т. *Магідава*.

Райінспектар Даманавіцкай Інспектуры Наргасучота **Вагман.**

Участковыя інспектары { **Квіцінскі, Цурко, Кас'янчык.**

# СПІС

## райінспектур, якія ўключыліся ў соцпаборніцтва

| №№ па парадку | Уключыліся ў соцпаборніцтва | Спаборнічаюць з: |
|---|---|---|
| 1 | Кіраўская | Бабруйскай |
| 2 | Лоеўская | Камарынскай |
| 3 | Грэская | Слуцкай |
| 4 | Мсціслаўская | Крычаўскай |
| 5 | Бабруйская | Магілеўскай |
| 6 | Буда-Кашалеўская | Уваравіцкай |
| 7 | Петрыкаўская | Мазырскай і Жыткавіцкай |
| 8 | Тураўская | Лельчыцкай і Жыткавіцкай |
| 9 | Нараўлянская | Мазырскай |
| 10 | Мазырская | Ельскай |
| 11 | Брагінская | Шклоўскай |
| 12 | Гарадоцкая | Лагойскай |
| 13 | Хоцімская | Клімавіцкай |
| 14 | Веткаўская | Свяцілавіцкай |
| 15 | Ельская | Лельчыцкай і Нараўлянскай |
| 16 | Бешанковіцкая | Чашніцкай |
| 17 | Узденская | Дзержынскай |
| 18 | Свяцілавіцкая | Веткаўскай |
| 19 | Кармянская | Журавіцкай |
| 20 | Оршанская | Гомельскай |
| 21 | Быхаўская | Шклоўскай, Журавіцк. і Кіраўскай |
| 22 | Капаткевіцкая | Петрыкаўскай |
| 23 | Лельчыцкая | Ельскай |
| 24 | Клічаўская | Асіпавіцкай |
| 25 | Чашніцкая | Бешанковіцкай |
| 26 | Халопеніцкая | Расонскай |
| 27 | Даманавіцкая | Парыцкай |
| 28 | Бялыніцкая | Бярэзінскай |
| 29 | Крупская | Халопеніцкай |
| 30 | Пухавіцкая | Менскай гарадской і Лагойскай |
| 31 | Полацкая | Дрысенскай |
| 32 | Менская (раённая) | Бабруйскай |
| 33 | Асвейская | Дрысенскай |
| 34 | Ушацкая | Лепельскай |
| 35 | Багушэўская | Камарынскай |
| 36 | Касцюковіцкая | Клімавіцкай |
| 37 | Слуцкая | Копыльскай |
| 38 | Чаўская | Лепельскай |
| 39 | Хойніцкая | Рэчыцкай |
| 40 | Рагачоўская | Жлобінскай |
| 41 | Лагойская | Заслаўск., Гарадоцк. і Пухавіцкай |
| 42 | Чачэрская | |
| 43 | Сіроцінская | Бешанковіцкай |
| 44 | Талачынская | Крупскай |
| 45 | Уваравіцкая | Буда-Кашалеўскай |
| 46 | Жыткавіцкая | Брагінскай |

## Становішча абследвання ўчота ў калгасах на 10 верасня 1936 г. па раёнах

| Раёны | Усяго калгасаў | Абследвана калгасаў | Раёны | Усяго калгасаў | Абследвана калгасаў |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Асвея . . . . . . | 83 | 21 | 22. Любань . . . . . | 53 | 26 |
| 2. Багушэўск . . . | 117 | 34 | 23. Мазыр . . . . . | 103 | 99 |
| 3. Барысаў . . . . | 118 | 31 | 24. Менск . . . . . | 107 | 21 |
| 4. Брагін . . . . . | 89 | 61 | 25. Мсціслаўль . . . | 156 | 4 |
| 5. Бягомль . . . . | 129 | 49 | 26. Нароўля . . . . | 81 | 9 |
| 6. Бярэзіна . . . . | 146 | 20 | 27. Орша . . . . . . | 201 | 80 |
| 7. Гарадок . . . . | 56 | 8 | 28. Петрыкаў . . . . | 78 | 12 |
| 8. Гомель . . . . . | 56 | 10 | 29. Плешчаніцы . . | 99 | 20 |
| 9. Дрыбін . . . . . | 146 | 4 | 30. Полацк . . . . . | 145 | 7 |
| 10. Дрыса . . . . . | 125 | 14 | 31. Пухавічы . . . . | 94 | 53 |
| 11. Ельск . . . . . . | 65 | 3 | 32. Рагачоў . . . . | 108 | 97 |
| 12. Жыткавічы . . . | 45 | 5 | 33. Свяцілавічы . . . | 45 | 31 |
| 13. Заслаўль . . . . | 71 | 7 | 34. Сенно . . . . . | 165 | 50 |
| 14. Капаткевічы . . | 59 | 30 | 35. Смілавічы . . . . | 87 | 9 |
| 15. Касцюковічы . . | 155 | 5 | 36. Сураж . . . . . | 192 | 74 |
| 16. Кіраўск . . . . . | 93 | 31 | 37. Хоцімск . . . . | 88 | 12 |
| 17. Клічаў . . . . . | 98 | 42 | 38. Чаусы . . . . . | 149 | 13 |
| 18. Копыль . . . . . | 108 | 27 | 39. Чачэрск . . . . | 65 | 16 |
| 19. Крупкі . . . . . | 113 | 30 | 40. Чашнікі . . . . . | 141 | 24 |
| 20. Лельчыцы . . . | 50 | 14 | 41. Чэрыкаў . . . . | 94 | 28 |
| 21. Лоеў . . . . . . | 55 | 33 | 42. Шклоў . . . . . | 201 | 26 |

## Райінспектуры, якія не даслалі ў КНГУ матэрыялаў па квартальнаму ўчоту грамадскага харчавання

| Назва райінспектур | За які квартал не дасланы матэрыялы |
|---|---|
| Быхаўская | За I квартал |
| Бягомльская | „ I і II кварталы |
| Ветрынская | „ I і II „ |
| Даманавіцкая | „ I квартал |
| Дубровенская | „ II „ |
| Дзержынская | „ II „ |
| Заслаўская | „ I і II кварталы |
| Капаткевіцкая | „ I квартал |
| Лагойская | „ I і II кварталы |
| Лёзнянская | „ I і II „ |
| Мехаўская | „ II квартал |
| Парыцкая | „ I і II кварталы |
| Плешчаніцкая | „ I і II „ |
| Сенненская | „ I і II „ |
| Слуцкая | „ I і II „ |
| Смалявіцкая | „ I і II „ |
| Старобінская | „ I і II „ |
| Ушацкая | „ I і II „ |
| Чаўская | „ II квартал |
| Чырвонапольская | „ I і II кварталы |
| Шклоўская | „ I і II „ |

## Адстаючыя райінспектуры

| Назва райінспектур | Колькі месяцаў райінспектура знаходзілася ў 4-й катэгорыі на працягу 1936 г. |
|---|---|
| Ветрынская | 8 |
| Кіраўская | 7 |
| Лепельская | 7 |
| Асіпавіцкая | 6 |
| Бягомльская | 6 |
| Журавіцкая | 5 |
| Церахоўская | 5 |
| Плешчаніцкая | 4 |
| Суражская | 3 |

## Ацэнка работы райінспектур Наргасучота за жнівень месяц 1936 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыя | Натуральны рух насельніцтва | Механічны рух насельніцтва | Учот дзіцячых летніх пляцовак | Справаздачнасць рэдакцый газет | Выпіскі з кнігі асноўных паказчыкаў за ліпень м-ц | Кан'юнктура прамысловасці | Цэны калгаснага гандлю | Па ўчоту рэалізацыі сел.-гасп. прадуктаў | Квартальны ўчот па калгасных фермах | Учот працы: У прамысловасці | Учот працы: У будаўніцтве | Учот працы: У саўгасах і МТС | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Асвейскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 3 | 0 | — | 5 | — | 4 | 5 | 5 | 5 | 3,9 |
| 2. Асіпавіцкі | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 0 | 1 | 1 | 1 | 2,3 |
| 3. Бабруйскі | 3 | 5 | 5 | 0 | 5 | 0 | 0 | 5 | 5 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3,3 |
| 4. Багушэўскі | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 3 | — | 3 | 5 | 3 | 5 | 3,3 |
| 5. Барысаўскі | 3 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | 0 | 4 | 3 | 3 | 4 | 2 | 4 | 3,0 |
| 6. Бешанковіцкі | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 3 | 4 | 5 | 3,4 |
| 7. Брагінскі | 2 | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | — | 5 | 5 | 3 | 3 | 3,7 |
| 8. Буда-Кашал. | 2 | 3 | 4 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 5 | — | 5 | 3,6 |
| 9. Быхаўскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 5 | — | 2 | 3 | 3 | 3 | 3,1 |
| 10. Бягомльскі | 4 | 3 | 4 | 0 | 3 | 0 | — | 4 | — | 3 | 0 | 3 | 2 | 2,2 |
| 11. Бялыніцкі | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | — | — | 0 | 2,7 |
| 12. Бярэзінскі | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | 0 | — | 4 | — | 3 | 5 | 0 | 3 | 3,0 |
| 13. Веткаўскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 4 | — | 4 | 5 | — | 3 | 4,1 |
| 14. Ветрынскі | 4 | 0 | 5 | 0 | 0 | 0 | — | 0 | — | 0 | 2 | 0 | 5 | 1,2 |
| 15. Віцебскі | 2 | 3 | 4 | 4 | 4 | 5 | 0 | 5 | 4 | 5 | 4 | 4 | 4 | 3,8 |
| 16. Гарадоцкі | 2 | 3 | 5 | 5 | 5 | 5 | — | 5 | — | 3 | 5 | 0 | 4 | 4,0 |
| 17. Глускі | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 2 | 2 | 2 | 2,7 |
| 18. Гомельскі | 3 | 3 | 4 | 5 | 3 | 0 | 0 | 5 | 4 | 5 | 3 | 3 | 3 | 3,1 |
| 19. Горацкі | 3 | 3 | 4 | 0 | 4 | 0 | — | 5 | — | 4 | 3 | — | 5 | 3,1 |
| 20. Грэскі | 3 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 5 | — | 2 | 0 | 5 | 5 | 3,3 |
| 21. Даманавіцкі | 2 | 5 | 3 | 4 | 4 | 5 | — | 4 | — | 3 | 3 | — | 5 | 4,0 |
| 22. Дзержынскі | 3 | 5 | 3 | 4 | 0 | 0 | — | 3 | — | 4 | 4 | 5 | 3 | 3,1 |
| 23. Добрушскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 2 | 2 | 5 | 2 | 3,0 |
| 24. Дрыбінскі | 3 | 3 | — | 0 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 5 | — | 3 | 2,7 |
| 25. Дрысенскі | 3 | 3 | 2 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 4 | 2 | 2 | 3,0 |
| 26. Дубровенскі | 3 | 3 | 3 | 4 | 3 | 5 | — | 5 | — | 3 | 0 | 1 | 0 | 2,7 |
| 27. Ельскі | 2 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 4 | — | 3 | 0 | 1 | 5 | 3,6 |
| 28. Жлобінскі | 3 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 2 | 5 | 3 | 3,3 |
| 29. Журавіцкі | 3 | 3 | — | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 3 | — | 5 | 3,3 |
| 30. Жыткавіцкі | 1 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 5 | — | 4 | 5 | 5 | 5 | 4,7 |
| 31. Заслаўскі | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | 0 | — | 3 | — | 3 | 3 | — | 2 | 2,7 |
| 32. Камарынскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 2 | 5 | 5 | 5 | 3,7 |
| 33. Капаткевіцкі | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | — | 4 | — | 2 | 3 | — | 2 | 4,0 |
| 34. Кармянскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 5 | 0 | — | 5 | — | 3 | 5 | 3 | 5 | 3,8 |
| 35. Касцюковіцкі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 5 | — | 4 | 5 | 1 | 4 | 4,0 |
| 36. Кіраўскі | 4 | 3 | — | 4 | 4 | 0 | — | — | — | 3 | 0 | — | 1 | 2,1 |
| 37. Клімавіцкі | 3 | 3 | 5 | 0 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 2 | 2,7 |
| 38. Клічаўскі | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 2 | 2 | 3 | 3 | 2,8 |
| 39. Копыльскі | 1 | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | — | 5 | — | 5 | 5 | — | 5 | 4,6 |
| 40. Круглянскі | 4 | 3 | — | 3 | 4 | 0 | — | 3 | — | 2 | 0 | 0 | 5 | 2,2 |
| 41. Крупскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 5 | — | 3 | 3,3 |
| 42. Крычаўскі | 3 | 5 | 5 | 3 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 3,3 |
| 43. Лагойскі | 4 | 3 | 0 | 5 | 4 | 0 | — | 3 | — | 3 | 0 | — | 0 | 2,0 |
| 44. Лельчыцкі | 2 | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | — | 4 | — | 4 | — | 5 | 2 | 4,1 |
| 45. Лепельскі | 4 | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | 0 | 3 | 1 | 2 | 0 | 2,1 |

## Ацэнка работы райінспектур НГУ за жнівень м-ц 1936 г. (працяг)

| Назва раёнаў | Катэгорыя | Натуральны рух насельніцтва | Механічны рух насельніцтва | Учот дзіцячых летніх пляцовак | Справаздачнасць рэдакцый газет | Выпіска з кнігі асноўных паказчыкаў за ліпень м-ц | Кан'юнктура прамысловасці | Цэны калгаснага гандлю | Па ўчоту рэалізацыі сел.-гасп. прадуктаў | Квартальны ўчот па калгасных фермах | Учот працы: У прамысловасці | Учот працы: У будаўніцтве | Учот працы: У саўгасах і МТС | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 46. Лёзненскі | 4 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | — | 4 | — | 3 | 1 | 2 | 1 | 1,8 |
| 47. Лоеўскі | 2 | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 5 | 5 | 5 | 4,0 |
| 48. Любаньскі | 2 | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | — | 5 | — | 4 | 5 | 5 | 5 | 4,1 |
| 49. Магілеўскі | 3 | 5 | 5 | 0 | 4 | 0 | 0 | 5 | 4 | 3 | 5 | 4 | 4 | 3,2 |
| 50. Мазырскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | 2 | 4 | 5 | 5 | 3 | 3,5 |
| 51. Менск (горад) | 2 | 5 | 5 | 5 | 4 | — | 3 | 5 | 4 | — | 3 | 3 | — | 4,1 |
| 52. Менск (раён) | 3 | 5 | 3 | 3 | 3 | 0 | — | — | — | 3 | 2 | 5 | 3 | 3,0 |
| 53. Мехаўскі | 4 | 3 | — | 4 | 0 | 0 | — | 0 | — | 2 | 0 | 0 | 0 | 1,0 |
| 54. Мсціслаўскі | 4 | 3 | 3 | 5 | 0 | 0 | — | 5 | 4 | 4 | 1 | 0 | 2 | 2,4 |
| 55. Нараўлянскі | 1 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 5 | — | 5 | 5 | 5 | 5 | 4,8 |
| 56. Оршанскі | 3 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 0 | 4 | 3 | 5 | 3 | 2 | 2 | 3,4 |
| 57. Парыцкі | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 0 | — | 3 | 5 | — | 3 | 2,9 |
| 58. Петрыкаўскі | 3 | 3 | 4 | 0 | 4 | 5 | — | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 5 | 3,4 |
| 59. Плешчаніцкі | 4 | 3 | 3 | 0 | 5 | 0 | — | 0 | — | 0 | 1 | — | 2 | 1,5 |
| 60. Полацкі | 3 | 0 | 5 | 0 | 4 | 0 | — | 5 | 4 | 4 | 3 | 1 | 3 | 2,6 |
| 61. Прапойскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | — | 5 | 5 | 3,7 |
| 62. Пухавіцкі | 3 | 5 | 5 | 0 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 5 | 3 | 5 | 3,4 |
| 63. Рагачоўскі | 2 | 3 | 5 | 5 | 4 | 5 | — | 4 | — | 5 | 5 | 5 | 3 | 4,4 |
| 64. Расонскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 5 | 2 | 5 | 3,6 |
| 65. Рэчыцкі | 3 | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | 0 | 5 | 4 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3,4 |
| 66. Свяцілавіцкі | 3 | 3 | — | 5 | 4 | 0 | — | — | — | 3 | 5 | 5 | 2 | 3,3 |
| 67. Сенненскі | 4 | 3 | 4 | 0 | 0 | 0 | — | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 2 | 1,9 |
| 68. Сіроцінскі | 2 | 5 | 5 | 4 | 5 | 0 | — | 4 | — | 5 | 3 | 2 | 5 | 3,8 |
| 69. Слуцкі | 4 | 5 | 5 | 0 | 4 | 0 | — | 3 | 0 | 3 | 0 | 2 | 0 | 2,0 |
| 70. Смалявіцкі | 4 | 5 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 0 | — | 3 | 1 | 0 | 2 | 2,3 |
| 71. Смілавіцкі | 3 | 3 | 0 | 4 | 5 | 0 | — | 5 | — | 3 | 5 | 2 | 3 | 3,0 |
| 72. Ст.-Дарожскі | 2 | 3 | 3 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | — | 5 | 5 | 5 | 5 | 3,9 |
| 73. Старобінскі | 4 | 3 | 5 | 5 | 4 | 0 | — | 4 | — | 2 | 0 | 0 | 1 | 2,4 |
| 74. Суражскі | 3 | 3 | 4 | 3 | 5 | 0 | — | 4 | — | 4 | 2 | 2 | 5 | 3,2 |
| 75. Талачынскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 5 | 5 | 4 | 3,7 |
| 76. Тураўскі | 2 | 3 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 4 | — | 4 | 5 | 3 | 5 | 4,2 |
| 77. Уваравіцкі | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 | 0 | — | 4 | — | 2 | 3 | 5 | 5 | 3,3 |
| 78. Уздзенскі | 2 | 5 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 5 | 5 | 5 | 3,9 |
| 79. Ушацкі | 3 | 3 | 4 | 0 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 2 | 5 | 2 | 2,7 |
| 80. Халопеніцкі | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 5 | — | 3 | 3,3 |
| 81. Хоцімскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 5 | 2 | 3 | 3,3 |
| 82. Хойніцкі | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 0 | — | 5 | — | 5 | 5 | — | 5 | 4,4 |
| 83. Церахоўскі | 3 | 3 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 0 | — | 3 | 2 | — | 3 | 2,6 |
| 84. Чаускі | 3 | 3 | 4 | 0 | 4 | 0 | — | 5 | — | 3 | 5 | 5 | 3 | 3,2 |
| 85. Чачэрскі | 2 | 3 | 5 | 5 | 4 | 4 | — | 5 | — | 4 | — | — | 2 | 4,0 |
| 86. Чашніцкі | 2 | 5 | 3 | 0 | 4 | 5 | — | 4 | — | 4 | 5 | 5 | 4 | 3,9 |
| 87. Чырвонапольскі | 4 | 3 | 4 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 3 | 0 | — | 0 | 2,4 |
| 88. Чырв.-Слабодскі | 3 | 3 | 5 | 4 | 3 | 0 | — | 3 | — | 4 | 2 | — | 2 | 2,9 |
| 89. Чэрвеньскі | 3 | 3 | 3 | 5 | 3 | 0 | — | 4 | — | 3 | 5 | — | 2 | 3,1 |
| 90. Чэрыкаўскі | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 0 | — | 5 | — | 3 | 0 | 5 | 3 | 3,2 |
| 91. Шклоўскі | 2 | 5 | 5 | 4 | 4 | 0 | — | 4 | — | 4 | 4 | 5 | 4 | 3,9 |

## ПЛАН РАБОТ

### раённых і ўчастковых інспектур народна-гаспадарчага ўчота на IV квартал 1936 года

| Назва работ | Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работ | |
|---|---|---|---|---|
| | Участковай | Раённай | На ўчастку | У раёне |
| **Па ўчоту ў галіне сельскай гаспадаркі** | | | | |
| Абмалоты жыта азімага і аўсу (па картцы ф. № 2 вымярэння ўраджаю на карню зернавых). | Запаўненне карткі непасрэдна ў калгасе. | Праверка запаўнення картак з выездам у калгасы. | Да 10 кастрычніка | Да 12 кастрычніка |
| Валавыя зборы позніх яравых культур (па 4-х калгасах кожным участковым інспектарам, па ф. 5-б). | Запаўненне карткі непасрэдна ў калгасе па становішчу на 15 кастрычніка. | Праверка запаўнення картак. | Да 20 кастрычніка | Да 22 кастрычніка |
| Вымярэнне ўраджаю бульбы, становішча ўчота копкі бульбы і якасць копкі (учот страт) бульбы. | Правядзенне работ непасрэдна ў вызначаных калгасах. | Праверка работы мятроўшчыкаў у калгасах. | Вымярэнне—па меры паспявання бульбы. Становішча ўчота копкі і ўчот страт (мятроўкамі) бульбы першы раз у 2-ю пяцідзёнку пасля пачатку копкі бульбы калгасамі і другі раз—пасля сканчэння копкі калгасам усёй бульбы, але не пазней 25-га кастрычніка | Праверка работы ў час вымярэння і ўчота страт пры ўборцы бульбы не менш 2-х разоў. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Выкапіроўка ў райземаддзеле даных аб абмалотах жыта азімага і аўсу з формы № 14 калгаснай справаздачнасці. | — | Непасрэднае правядзенне гэтай работы. | — | 5-га кастрычніка па становішчу на 1/X. 5 лістапада па становішчу на 1/XI |
| Распрацоўка даных учота прадукцыі жывёлагадоўлі калгасных ферм за III квартал. | Збор матэрыялаў ад калгасных ферм. | Распрацоўка матэрыялаў на таблiцах (лентах) | Да 5 кастрычніка | Да 15 кастрычніка |
| **Па ўчоту прамысловасці** | | | | |
| Дэкадныя звесткі аб выкананні плана па валавой прадукцыі (па вызначаных раёнах). | — | Збор звестак і дасылка ў ў КНГУ. | — | Кожныя 10 дзён |
| **Па ўчоту працы** | | | | |
| Бягучы ўчот працы ў прамысловасці, будаўніцтве, соўгасах і МТС. | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем у райінспектуру промпрадпрыемствамі, соўгасамі МТС і будаўніцтвамі картак. Інструктаж па запаўненню картак, сістэматычная праверка правільнасці складання справаздачных картак. | Атрыманне справаздачных картак ад прадпрыемстваў, соўгасаў, МТС і будаўніцтваў, інструктаж па запаўненню картак і праверка на месцы правільнасці запаўнення картак. Кантроль атрыманых картак і дасылка іх у КНГУ, | Штомесячна з 5 да 15-га чысла. | Штомесячна з 5-га да 15-га чысла |
| Квартальны ўчот фондаў зарплаты. | Збор і кантроль сельсовецкіх картак ф. 32 за III квартал 1936 г. | Збор, кантроль і дасылка ў КНГУ матэрыялаў па ўчоту фондаў зарплаты за III квартал 1936 г. | 10-га кастрычніка | 10-15 кастрычніка |

| Назва работ | Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работ | |
|---|---|---|---|---|
| | Участковай | Раённай | На ўчастку | У раёне |
| Бюджэты рабочых і служачых (Менск, Віцебск, Гомель, Рэчыца, Барысаў, Добруш і Дуброўна). | — | Кантроль і нагляд за штомесячным абследваннем бюджэтаў рабочых і служачых. Арганізацыя распрацоўкі матэрыялаў па Менску, Віцебску, Гомелю і Барысаву. | — | Штомесячна |
| Бюджэты калгаснікаў (у вызначаных раёнах). | — | Арганізацыя і кантроль абследвання бюджэтаў калгаснікаў па вызначаных раёнах. | — | " |
| **Па ўчоту насельніцтва і аховы здароўя** | | | | |
| Натуральны рух насельніцтва (нараджаемасць, смертнасць, шлюбы, разводы). | Нагляд за адсылкай сельсоветамі другіх экземпляраў актаў грамадзянскага становішча, праверка якасці запоўненых бланкаў. | Нагляд за пастаноўкай рэгістрацыі актаў грамадзянскага становішча ў ЗАГС'ах НКУС (тэрміны, якасць запаўнення), вядзенне дзенніка па сельсоветах, атрыманне штомесячнай ведамасці ад райінспектуры ОАГС НКУСпраў, кантроль і адсылка ў КНГУ. | Штомесячна | Штомесячна |
| Механічны рух насельніцтва. | — | Атрыманне адрасных лісткоў аб механічным руху насельніцтва ад органаў міліцыі, складанне раённай зводкі і адсылка матэрыялаў у КНГУ. | — | " |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сетка і дзейнасць устаноў аховы здароўя. | Праверка своечасовасці прадстаўлення ўстановамі аховы здароўя месячных і квартальных справаздач і кантроль іх якасці. Праверка пастаноўкі і вядзення ўстановамі аховы здароўя рэгістрацыі захворваемасці. | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем райздравам у НКАховы здароўя і іншымі арганізацыямі, маючымі ўстановы аховы здароўя, у рэспубліканскія органы—бягучай справаздачнасці, кантроль паўнаты і якасці. Праверка пастаноўкі і вядзення ўстановамі аховы здароўя рэгістрацыі захворваемасці. | Кастрычнік—снежань | Кастрычнік—снежань |
| **Па перапісу насельніцтва** | | | | |
| Падрыхтоўчыя работы да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва. | Правядзенне ўсіх падрыхтоўчых работ згодна оргплана і ўказанняў райінспектара. | Правядзенне ўсіх падрыхтоўчых работ у раёне згодна оргплана і ўказанняў КНГУ БССР. | Кастрычнік—снежань | Кастрычнік—снежань |
| **Па ўчоту ў галіне навукі і культуры** | | | | |
| Кантрольна-спісачны ўчот устаноў народнай асветы на 1-е кастрычніка 1936 г. | Складанне спіса „КУ" культасветных устаноў па свайму ўчастку. | Кантроль спісаў „КУ", складанне спісаў па ф. I—VII і зводак па Ф. I-с—VII-с, параўнанне з данымі на 1 студзеня 1936 г. | 1—5 кастрычніка | 1—15 кастрычніка |
| Абследванне аднакамплектных школ. | Наведванне школ, пры якіх павінен быць запоўнен бланк загадчыкам школы. | Выверка спіса школ, кантроль бланкаў і дасылка іх у КНГУ. | 1/X—1/XI | 1/XI—10/XI |
| Справаздачнасць па парках культуры і адпачынку. | — | Атрыманне справаздачнасці, кантроль яе і дасылка ў КНГУ. | — | 1—25 кастрычніка |

| Назва работ | Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работ | |
|---|---|---|---|---|
| | Участковай | Раённай | На ўчастку | У раёне |
| Нагляд за своечасовым прадстаўленнем райАНА справаздачнасці ў НКАсветы. | — | Забяспечыць своечасовае прадстаўленне райАНА ў НКАсветы справаздачнасці школ усенавуча на пачатак 1936-37 навучальнага года, школ непісьменных і малапісьменных, а таксама правядзенне ўчота дзяцей, падлягаючых усеагульнаму навучанню, і прадстаўленне ў НКАсветы матэрыялаў па гэтаму ўчоту. | — | Кастрычнік—снежань. |
| **Па ўчоту будаўніцтва і комунальнай гаспадаркі** | | | | |
| Бягучая рэгістрацыя будаўніцтва. | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі. | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі. Кантроль картак і дасылка іх у КНГУ. | Кастрычнік—снежань | Кастрычнік—снежань. |
| Зводка аб ходзе школьнага будаўніцтва (па ф. 13). | — | Атрыманне зводкі ад райАНА, праверка яе і дасылка ў КНГУ. | — | Штомесячна 7-га чысла. |
| Дынаміка элементаў каштоўнасці будаўніцтва за 9 месяцаў 1936 года. | — | Атрыманне звестак ад будпляцовак, праверка іх і адсылка ў КНГУ. | — | Не пазней 17-га кастрычніка—за III квартал. |
| Учот соцыяльна-культурнага і бытавога будаўніцтва, вытваранага за годы існавання совецкай улады ў гарадах і паселішчах гарадскога тыпа. | Непасрэднае правядзенне работ па ўказанню райінспектара. | Правядзенне работ па ўказанню КНГУ. | Кастрычнік—лістапад | Кастрычнік—лістапад. |
| Складанне кантрольных спісаў будаўніцтва 1936 года. | Складанне кантрольных спісаў. | Складанне кантрольных спісаў будаўніцтва 1936 г. | На працягу квартала. | На працягу квартала. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Нагляд за своечасовым прадстаўленнем будаўніцтвамі справаздачнасці ў КНГУ (па формах 2-б, 5, 13). | — | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем будаўніцтвамі справаздачнасці ў КНГУ (па формах 2-б, 5, 13). | — | Кастрычнік—снежань |
| Увод у эксплаатацыю новага жылфонда (па гарадах і паселішчах гарадскога тыпа) за III квартал 1936 г. | Запаўненне картак аб здачы ў эксплаатацыю жыллёвага будаўніцтва. | Атрыманне картак аб здачы ў эксплаатацыю жыллёвага будаўніцтва, праверка картак і дасылка звестак у КНГУ. | Да 12 кастрычніка | 12 кастрычніка |
| Квартальныя звесткі абуводзе ў эксплаатацыю аб'ектаў будаўніцтва комунальных органаў за III квартал 1936 г. (па гарадах: Менск, Віцебск, Гомель, Полацк, Орша, Магілеў, Мазыр. Слуцк, Лепель, Бабруйск, Барысаў). | — | Атрыманне ад комгасаў звестак, праверка іх і дасылка ў ЦУНХУ. | — | 10-га кастрычніка |
| Бягучы ўчот выканання гадавога плана работ за III квартал па комунальных прадпрыемствах (па гарадах: Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Бабруйск, Орша, Мазыр, Полацк). | — | Атрыманне ад комгасаў звестак, праверка іх і адсылка ў ЦУНХУ. | — | 7 кастрычніка. |
| **Па ўчоту совецкага гандлю** | | | | |
| Учот гандлю на гарадскіх калгасных рынках (13 гарадоў: Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Бабруйск, Барысаў, Мсціслаўль, Мазыр, Орша, Полацк, Рэчыца, Слуцк, Лепель). | — | Нагляд, інструктаж, кіраўніцтва работай, кантроль матэрыялаў, складанне зводак і дасылка ў КНГУ. | — | Штомесячна. |

| Назва работ | Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работ | |
|---|---|---|---|---|
| | Участковай | Раённай | На ўчастку | У раёне |
| Штомесячная рэгістрацыя гарадскіх базарных цэн на 25-е чысло па 46 таварах і рэгістрацыя цэн па дэкадах па 15 таварах. | — | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі цэн і дасылка матэрыялаў у КНГУ. | — | Штомесячна на 5, 15 і 25 чысло. |
| Штомесячная рэгістрацыя базарных цэн ва ўсіх раённых цэнтрах на 25 чысло па 54 таварах. | — | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі цэн і дасылка матэрыялаў у КНГУ. | — | Штомесячна на 25-е чысло. |
| Рэгістрацыя розьнічных цэн дзяржгандлю на бульбу, гародніну, малако і яйкі (па 3 гарадах: Менск, Віцебск, Гомель). | — | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі цэн і адсылка матэрыялаў у КНГУ. | — | » |
| Рэгістрацыя гандлёвых накідак на тавары 3-й групы, установленых рэспубліканскімі органамі спажыўсістэмы і дзяржгандлю (па 3-х гарадах: Менск, Віцебск, Гомель). | — | Збіранне матэрыялаў, кантроль і адсылка ў КНГУ. | — | 25-га снежня |
| Квартальны ўчот сеткі, прадукцыі і звароту па самадзейнай сетцы грамадскага харчавання ва ўсіх раёнах. | Нагляд за своечасовым складаннем справаздачнасці і дасылкай яе ў райінспектуру. | Атрыманне, кантроль і адсылка ў КНГУ матэрыялаў за III квартал 1936 года. | Да 8-га кастрычніка. | 8 кастрычніка |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Розьнічны зварот па мясцовых гандлёвых арганізацыях. | Нагляд за своечасовым складаннем справаздачнасці і дасылкай яе ў райінспектуру. | Атрыманне, кантроль і дасылка справаздачнасці ў КНГУ. | Штомесячна да 3 чысла. | Штомесячна 3-га чысла. |
| Абследванне міжраённых ярмарак і прадсвяточных базараў. | — | Непасрэднае правядзенне абследванняў і дасылка матэрыялаў у КНГУ. | — | Кастрычнік—лістапад. |
| Нагляд за своечасовым прадстаўленнем у КНГУ штомесячнай і квартальнай справаздачнасці па тавараздвароту ОРС'амі, якія не маюць рэспубліканскіх цэнтраў. | — | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем у КНГУ штомесячнай і квартальнай справаздачнасці па тавараздвароту ОРС'амі, якія не маюць рэспубліканскіх цэнтраў. | — | На працягу квартала. |
| **Па аддзелу зводнага бягучага ўчота** | | | | |
| Бягучы ўчот выканання народна-гаспадарчага плана раёна. | — | Акуратнае запаўненне кнігі „асноўныя паказчыкі выканання народна-гаспадарчага плана раёна" і штомесячнае прадстаўленне выпісак з гэтай кнігі кіруючым органам раёна і ў КНГУ. | — | Штомесячна. |
| **Па лініі ўчотнай інспекцыі** | | | | |
| Праверка становішча ўчота і справаздачнасці ў аддзелах РВК, згодна пастановы ЦВК БССР ад 15-га чэрвеня 1936 г. | — | Праверка становішча ўчота і справаздачнасці ў аддзелах РВК, асабліва ў райАНА, райздраве і дораддзеле, згодна пастановы ЦВК БССР ад 15 чэрвеня 1936 г. | — | Кастрычнік. |

| Назва работ | Работа інспектур | | Тэрмін правядзення работ | |
|---|---|---|---|---|
| | Участковай | Раённай | На ўчастку | У раёне |
| Забеспячэнне сельсоветаў кнігамі і формамі пярвічнага ўчота на 1937 год і правядзенне інструктажу работнікаў сельсоветаў. | — | Раздача сельсоветам кніг і форм пярвічнага ўчота на 1937 г. і правядзенне інструкцыйнай нарады работнікаў сельсоветаў па пытаннях пярвічнага ўчота на 1937 г. | — | Лістапад |
| Праверка аператыўнай справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах. | Праверка аператыўнай справаздачнасці па формах № 2, 7, 10, 11, 12 і 13 (сельсовецкай справаздачнасці, пры чым справаздачнасць па форме № 8 павінна правярацца не менш 2 разоў у месяц у калгасах і сельсоветах, згодна загада па ЦУНХУ № 68 ад 4-га сакавіка 1936 г. (гл. бюлетэнь № 3—4 за 1936 год). | | Кастрычнік—снежань | Кастрычнік—снежань |
| Бягучая работа па наладжванню пярвічнага ўчота ў сельсоветах. | Праверка своечасовасці і правільнасці вядзення ў сельсоветах пагаспадарчых кніг, журналаў, калгасаў і кніг па ЗАГС'у. | | Кастрычнік—снежань. | Кастрычнік—снежань. |

На падставе гэтага квартальнага плана работ райінспектар абавязан складаць штомесячныя календарныя планы работ для райінспектуры і для кожнага ўчастковага інспектара.

